Цана 75 грашоў.

# РОДНЫЯ ГОНІ

МЕСЯЧНІК ЛІТАРАТУРЫ Й КУЛЬТУРЫ ЗАХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.

1927. Чэрвень 1927.

| | | |
|---|---|---|
| КНІЖКА IV. | АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Крывое Кола, 21. Wilno, Krzywe Koło 21. | Падпіска на год . 8 зал. На 3 мес. . . . 2 зал. Адна кніжка . . 75 гр. |


НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЕВА.

## Веснавая калыханка.

Сьнежнаю мяцеліцай
Сыплюцца нядзеляю
Лепясткі вішнёвыя..
Па траве пасьцеляцца
Белаю пасьцеляю,
Коўдраю пуховаю
І вятры вячорныя
Закалышуць піхаю
Сьпеўнай калыханкаю,
— „Сьпі да раньня зорнага,
Пакуль ночка дыхае,
На траве—каханкаю.
Сны хай сьняцца гожыя
Табе, з жыцьця ўзятая,
Сонечна-гульлівыя.
Сны,--гдзе ўсе прыгожыя,
Сны,—гдзе ўсе багатыя,
Сны,—гдзе ўсе шчасьлівыя!“

## Ішла вясна.

І жамчужныя хмаркі вяночкі плялі
Над паўсонным, імглістым прасторам зямлі,
І цалункі гарачыя сонцавых кос
З сініх, сініх, прачыстых сплывалі нябёс,
І пралескі сьмяяліся ў ценю лагчын,
І ў мутной, непарушной вадзе калаін
Запаляліся сонцам мільлёны агнёў,—
Бо вясна йшла у руні палёў!

І дрыжэлі знаёмыя струны ў душы,
Пазабытыя ў часе зімовай цішы,
І хацелася нейдзе ірвацца, ляцець,
І хацелася крыльлі птушыныя мець,
І хацелася сонца абняць, цалаваць,
І пяяць, і пяяць, і пяяць, і пяяць,—
Бо йшчэ раз за маіх пералётных гадоў
Йшла вясна ў зяляніне палёў!

Чэрвень 1927 г.

М. ВАСІЛЕК.

## Ня плач, душа.

Ня плач, душа, што дні нядолі
Цябе зьняволілі, змаглі;
Пяі, душа—сьцярплю ўсе болі—
Я сын мазоля, сын ральлі.

Пакінь ты з нейкаю трывогай
Навокал сумна паглядаць,
Ідзі адзначанай дарогай,
Надзеі сьветлае ня траць.

Ня плач, душа,—сьвятую мэту
Ужо бачу ў шэрай я далі,
Гучней грымі наш лёзунг „К сьвету,
К свабодзе, праўдзе“ на зямлі.

Хай сьпеў наш гымнам адгукнецца
Па ўсіх куточках тэй зямлі,
Дзе сьлёзы й пот крывавы льлецца
Сыноў мазоля і ральлі.

## Дарога.

Густою дый дуброваю
Дарога доўга йшла
І вышла ў поле роўнае
Ля самага сяла.

А вышла—цалавалася
З мастом, на рэчцы што;
Праскочыла, схавалася
Зноў у лес і нібы што.

Ды зноў зьмяёй яна зьвілася
Балотам, лагчыною,
А што бяроз схілілася
Над ёю, над адною!

З рукапісу **П. Маслоўскага.**

Я. БУКА.

## Для мяне.

Колькі ні сьпяваю
І не рагачу,
Адно на ўме маю—
Свабоды хачу.
Здаецца пад'еўшы
І ёсьць што курыць,
Погляд весялейшы
А сэрца баліць
Аб жонцы з сыночкам,
Аб родным кутку,
Аб волі й Матулі
Аб сёстрах, братку.
Глуш дзе вокам кінеш:
Мур, зямля і мур
І ўсіх не абыймеш
Гэтых сьцен-панур.
Толькі за мурамі,
Чуцён скрыгат, крык,
Як-бы то валамі
Езьдзяць дзень вялік.
Вечарам праз вокны
Зоркі зіхацяць,
У камэры маркотна—
Ня хочацца спаць.

Так і брэдзе думка,
Рэжа сэрца нож,
На душы нек ёмка
Забірае дрож.
Каб як хутчэй воля
Прышла для мяне,
То мо як і доля
Інакш павярне.
Папраўлю здароўе
Й яшчэ буду жыць,
З людзямі нароўне
Жыцьцё весяліць
Сваё і сямейкі
Дарагое мне,
Якая зьдзек велькі
Цярпіць бяз мяне.
Цярпіць і чакае,
Калі прыйду я
Жана дарагая
І дзетка мая.
Снуе думка думку,
Цешыцца бядак,
Сэрца як у струнку
Б'е: цік так. цік так.

НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЕВА

* *
*

Часта ўвечары, так, на прадвесьні,
Калі гасьне заход, перад ночай
Мне так хочацца выліцца песьняй,
А так мучыць пачуцьце нямочы!
Бо ўсе словы здаюцца малымі,
Усе ня тыя, што выцьвісьці хочуць,
Бо ніяк не параджу я з тымі,
Што здалёку сьмяюцца-сакочуць...
Словы—кветкі на крыльлях птушынаў,
Словы—зоры са шляхоў сусьвету,
Словы—пэрлы з нязнаных глыбінаў,
Словы, будзьце-ж пакорны паэту.
Словы—музыка першых грымотаў,
Словы—чар векавечны, вясьняны,
Словы—сонцы з бязьмежных высотаў. *)
Словы, будзьце-ж вы мне паслухмяны!

*) Рус., паблр.—вышыняў.

З вас сатку я дыван шматкалёрны,
З вас здабуду рассыпныя тоны,
Пераўю агняцьветам вузорным,
Зазьвіню пераліўчатым звонам.
Аджыўлю ў вас мірганьне зарніцаў,
І шум-шэлях расістага жыта,
Успомню ўсё, што забытым маніцца,
Успомню ўсё, што даўно пражыта.
Не ўцякайце-ж нябеснай пуцінай,
Не хавайцеся ў далях нязнаных...
Словы—кветкі на крыльлях птушынаў,
Словы, будзьце-ж вы мне паслухмяны!

ПАЛАЧАНКА.

## Чары першае любові.

Сёдня дастала Вера Бурневічанка грошы з гасподы*) № 3. Шмат наагул мела клопату Бурневічанка з сваімі гасподнікамі**), толькі адзін вайсковы пісар з № 3 плаціў дзень ў дзень акуратна кожны месяц. У гэты самы дзень выходзіла Бурневічанка ў места рабіць розныя куплі. Наагул выходзіла вельмі рэдка, бо баялася пакідаць хату на апеку свае старое служанкі Марцэлькі. Шмат мела клопату з сваёй хатай.

У гэты дзень было горача, ногі не хацелі слухацца і ледзь валачыліся. Парыла, Бурневічанка насіла жалобу заўсёды, хоць ужо 7 год як памерла маці а бацька дык мо' й 15, і ў чорнай вопратцы ёй была вельмі душна. І калі яна таргавалася на рагу аднае з вуліцаў з возьнікам, у вочы ёй кінуўся шыльд: „Мануфактурны склад Пятры Марчонка". Раптам яе як бы прашыла і ў вялікім замяшаньні яна паехала. Дзіўны прыпадак! Магчыма, што гэта ня той Пётра Марчонак, але шмат, ах шмат гавора ёй гэта імя.

Болей чымся дванцаць год яго ня бачыла, калі гэта ён, мо' цэлых дваццаць пяць год мінула з таго дня, як з ім разлучылася. Ясна, што ён павінен быць ужо зусім стары, зразумела што ня можа ён мець і свайго гордага стану, сакаліных вачоў, але й яна ўжо ня тая, што калісь.

У месьце, набіраючы, крыху забылася Бурневічанка аб Пятру, бо мусіла ўважна глядзець каб яе не ашукалі і, калі змучаная ад цяганьня з жыдамі, вярталася дамоў, абладаваная пакункамі ды пакупачкамі, ізноў перад вачыма ўставала постаць Пятры.

*) Кватэры.
**) Кватаранцамі.

Быў тады студэнтам і даваў ёй лекцыі з матэматыкі. Прыходзіў кожны вечар і выседжаваў сваю гадзіну, пасьля ўсё даўжэй і даўжэй, аж пакуль не пакахаліся. Відацца маці падслухала іх гамонку, бо аднаго дня ў пакой, гдзе ішлі заняткі, увашоў бацька. Заныла раптам сэрца Бурневічанкі, адразу пачула нядобрае. Бацька выпрастаўся, блісьнулі акуляры, у руках зашурчэлі паперкі-грошы.

Што было далей, добра ня ведае Бурневічанка, памятае толькі як скранулася з места і паплыла ўдаль столь над галавой. Нічога й нікога балей ня бачыла. На другі дзень яго толькі ўгледзіла, як выяжджала з маткай на вёску. Ен стаяў на вуліцы блізка іх хаты, у руках трымаў шапку. Вецер гуляў з яго густымі валасамі. Ці бачыў ён яе? Хіба што не. Замест вачоў былі чорныя ямы бяз дна, а зубы так моцна сьціснуты, аж жылы на шыі надзьмуліся й напружыліся.

Выдалася Бурневічанцы, што яна адзірвянела, не скалыхнулася, не ўздрыганулася. Толькі буйныя сьлёзы як гарох сыпаліся з вачоў. Вось і канец яе каханьню. Балей ніколі не спатыкаліся.

Прыехала дамоў, здала пакункі на рукі Марцэлі, а сама як цень праскаўзнулася у свой пакой і ціхонька прычыніла дзьверы. Не хацела, каб яе Марцэлька бачыла, што яна будзе рабіць. Гэткія дні, як сёдня былі ў апошнія часы для Бурневічанкі вялікім сьвятам, бо ўдавалася ёй укінуць у сваю цяжкую скрыначку яшчэ некелькі круглых залатых манэтак, якія купляла раз у месяц у месьце. Чула заўсёды тады, як бы прыліў нейкай таемнай моцы ў арганізьме, жыцьцёвай энэргіі. Шмат іх ужо мела Бурневічанка ў скрыначцы на чорны дзень. I тым балей яна адчувала маральнай здаволеннасьці, чым цяжэй прыплываў да яе гэты грош. Бо вельмі многа каштавала ёй гэта здароўя, нэрваў. Неяк ішло з усімі, апрача аднаго гасподніка з № 5. Быў ім зрэдукаваны пісар магістрацкі. Не плаціў ужо балей як тры месяцы. Кожны дзень лічыла сваім абавязкам Бурневічанка захадзіць у № 5, каб прыпомнецца неакуратнаму плацельніку, і ня надта лёгка ёй гэта было. Кожны дзень бачыла, як мітусіўся ў вокне бляды твар мужчыны і нарэшче заміраў гдзесь за шафай цёмнай кухні, або хаваўся за скрыню ў куту. На спатканьне выходзіла яго жонка, худзенькая надзвычайна і маленькая, як абшчыпанае куранё. Падобнасьць дапаўняў востранькі насок і кароткія спутаныя валасы, якія тырчэлі на патыліцы, быццам пакульле. Кінутая маткай на брудную падлогу трыгодняя дзяўчынка ледзь трымалася на сваіх рахіцічных ножках.

Найбалей злавала Бурневічанку тое, што гэтая брудная абарваная жанчына-птушка на кожнае яе слова адказавала голасам, як быццам яе хто рэзаў і дэманстравала перад ёй свае брудныя лахманы. Доўга крычэлі обедзьве жанчын

зырытаваныя, ўзбураныя, ня слухаючы адна адну, пакуль Бурневічанка нарэшче ня выходзіла, бо чула сябе дрэнна ў душным паветры цеснага пакою.

Запраўда ня была Бурневічанка вельмі злой натурай і тры месяцы памагала гэтаму гаспадніку чым магла, хацела, каб яны выбіліся з бяды, але ў заўсёднай няўдачы бачыла проста гультайства і неахвоту ўзяцца за працу.

І вось сёдня парадак дня яе раптам зьмяніўся. Наўперад ня чула тае магутнае радасьці пры сьвядомасьці, што павялічуецца вага яе скрыначцы. Нават гэткія думкі прыходзілі: На што усё гэта? Ня мае на сьвеце душы, якая-б магла падзяліць яе радасьць, яе клопаты, якую магла-б кахаць, апякавацца ёй. Мела двух вялікіх катоў, Марса й Аполёна (Шэрка й Рудзька клікала іх Марцэля), але цяпер пачула тугу па чалавечаму голасу, па чалавечай ласцы.

І ня мела балей сілы ісьці да зрэдукованага магістрацкага пісара.

Калі-ж прышоў позьні летні вечар і старая Марцэля запаліла лямпу і каля агню пачалі віцца начныя матылі, а каты сядзелі каля ног свае гаспадыні і чакалі, як рука яе кіне ім кавалкі булкі—тады пачула Бурневічанка страшэннае й цяжкое як волава адзіноцтва і горка-ціха заплакала.

---

Чуе Бурневічанка, як усю істоту яе ўскалыхнулі нахлынулыя ўспаміны аб Пятры і іх любасьці, першай і адзінай любасьці, што закрасавала пышна ў яе сэрцы калісь, каб завянуць у зараньню. І цяпер ізноў сэрца было маладое-маладое і з новай гвалтоўнай сілай прабудзілася калішняе пачуцьцё. Штосьці пхала яе на вуліцу да тых вакон, у каторых схаваліся стракатыя паркалі і над зялёнымі дзьвярыма гарэў надпіс: Пётра Марчонак.

Прыглядалася да дэсэняў паркалёў і сьнілася ёй па начах гэта зялёнае поле, а па ім чырвоны гарох рассыпаны. І дзіўная неадвага ахапляла яе. Сэрца калацілася, як ашалелае ледзь ня рвалася на кавалкі, а зайсьці ў краму як не магла так не магла.

Гэтак ішоў час. Марцэлька ўважна прыглядалася да свае пані, а гаспаднікі з №5 кожны вечар кладучыся спаць казалі: ну дзякаваць Богу і сёдня ня прыходзіла гаспадыня, вось дзень і прашоў ціха. — Пры гэтым маленькая жанчына, падобная да абшчыпанага кураняці ськідала з сябе спадніцу і накрывала ёй сваю дачку.

Бурневічанцы сьніўся сон: Была яна зусім маладая, сядзела у сваім салёне і ела, здаецца, ігрушы. Каля яе сядзеў Пётра, такі самы як тады, глядзеў ёй проста ў вочы сваім сакаліным паглядам, рукі цалаваў, твар, вусны. Так нязьмерна добра было ёй у сьне, што цэлы дзень хадзіла

пад уражаньнем яго. Чула сябе зусім маладой, мела ў сэрцы невычарпаны запас жаноцкай пяшчоты і страшэнна жадала падзяліцца з кімсьць гэтым запасам.

Пастанавіла пасьці ў краму быццам штосьці сабе купіць і разам з тым даведацца аб Пятру Марчонку.

Старанна й сьвяточна ўбралася. Ледзь значна, стыдаючыся сама сябе, падрысавала алавікам бровы й вочы. Выдалася сама сабе прыгожай, зьмяненай і прыемна гэта было й сорамна разам.

І калі з безнадзейнай адвагай рашчыніла зялёныя дзьверы крамы, адразу пагляд яе дзіўны й зачараваны прырос да маладога твару, што нічагусенькі не зьмяніўся, такога самага як і дваццаць пяць год на твары Пятры Марчонка. Прыцягнутая, як магнітам гордым паглядам сакаліных вачоў, не сваімі нагамі, быццам зробленымі з ваты, падыйшла да прылаўка.

І вось ціхім страчаным голасам зажадала матар'ялаў. Ня ведала, што трэба купіць і купляла, здаецца, усё аб чым толькі пяяў над ёй далекі й чароўны голас, такі далёкі, які толькі бывае ўва сьне. Купляла ўсё, што ён прапанаваў.

Бачыла, што яе не пазнаюць. Тады дрыжачым голасам дала свой адрэс і прасіла прыслаць матар'ялы ў хату Веры Бурневічанкі.

— Веры Бурневічанкі? — як рэха адазваўся малады голас запісуючы. Аднак ніхто не варушыўся. Нарэшце пачула з боку сярдзіты голас: А мо' панечка, спачатку заплаціце? — так сама, як калісь дваццаць пяць год назад прыпамінаў!

— Вы забыліся, што $Sn^2d + Cs^2d = 1$.

Зірнула ў бок, і спаткала востры пагляд паверх акуляраў, пагляд бадаўчы, зьдзіўлёны, чужы і разам з тым вельмі знаёмы, страшэнна знаёмы.

І калі пасьпешна аплаціла лік (рахунак) і выхадзіла, дзьве галавы кляняліся ёй нізенька з ветлівым усьмехам.

Адна галава лысая з сівым пухам каля вушоў і сівымі парудзелымі ад тытуну вусамі, з мяшкамі пад рачымі вачыма і сярдзітымі зморшчкамі каля вуснаў, галава Пятры Марчонка, другая ягонага сына Сымона, такога маладога й харошага якім і ён быў дваццаць пяць год назад.

— Я думаў, што гэтая баба звычайная зладзейка і хацела закруціць табе галаву, каб сьцібрыць штосьці. Гэта іх манэўр. Кажа шмат, шмат падаць, і гэта і тое і сёе, а тымчасам сабе штосьці прыхавае за пазуху. Але гэтая толькі набрала і за ўсё заплаціла... Каб гэтакіх бабаў болей было, мы-б яшчэ неяк жылі, а то прыйдзецца нам складаць нашыя манаткі.



Зьезд Т-ва Беларускае Школы Горадзенскага павету ў Горадне 10-га красавіка сёлета.

А. С.

# Закаханая.

— Добры дзень!

З такім прывітаньнем увайшла да свае сяброўкі Марыля.

— Вось, я дык не магу інакш, усё разьяжджаю ды разьяжджаю.

Была цяпер у Вільні...

Пры гэтых словах на твар сяброўкі наляцела хмарка суматы і нейкага нездаволеньня.

— Ізноў Вільня! Божачка! За што? падумала.

— Што-ж чуваць там новага? папыталася ледзь дрыжачым голасам.

— Ой, усіх нашых слухачоў бачыла! Бачыла Станіловіча, Акімца, Вярыгу бачыла! Усе кланяюцца... І Вярыга кланяецца ўсім...

— Прывезла фатаграфію; мяне, ведаеш, пасадзілі радам з Бугаём.—

— А мяне?—

— Чакай!... ага, ты-ж радам з Вярыгай...

Хоць Іры і вельмі хацелася схаваць перад Марыляй сваё узрушэньне, але не здалела перамагчы сябе і папыталася:—Навошта-ж мяне пасадзілі у Вярыгаю? Яго цярпець не магу!

— Маніш! мусіць здаволена! Ен мне сам казаў, што ты ў ім закахаўшыся.

— Ен казаў, кажаш, казаў, ха-ха-ха! Што-ж яшчэ ён табе казаў?

— Ен казаў, што за нейкую гутарку з ім ты яму не спадабалася.

Кроў выцяла Іры ў твар. Уся пачырванеўшы, заламала рукі. Хацелася ёй плакаць і стагнаць.

— Марыля мілая, яму здаецца, што ў ім усе кахаюцца. А Люсі ён так сама казаў.

— Ня ведаю, але ён казаў, што за адну гутарку ты яму не спадабалася.

— За якую?

— Не казаў за якую. Ну, дабранач, ужо зусім сьцямнела.

— Марыля, мілая, не ўцякай, пагутарым.

— Не, не, ужо пайду.

— Ня йдзі, ня йдзі! Пабудзь яшчэ крыху. Я не магу застацца цяпер адна! Што я буду рабіць?...

— Ты, Іра, моцна закахалася ў Вярызе!...

— Не, сур'ёзна пакачала галавой Іра, а можа й закахалася! Нікому праўды не скажу...

— Ну, дабранач, і, нязграбна павярнуўшыся, Марыля выйшла.

Іра засталася адна. Хутка падышла да стала і ўпілася вачыма ў групу, што ей пакінула сяброўка.

— Вярыга, Вярыга, як гэта магло стацца, што я пакахала цябе? І што мне цяпераканя рабіць? Куды мне кінуцца?...

— Ха-ха-ха, думала дзеці вучыць. Думала ў працы патапіць сваю любоў! Дзе-ж тая школа? Дзе тыя дзеці?

Перад сабой бачу адну даўгую зіму. Даўгую, адзінокую.

Павокал ані воднае жывое душы! Усе здаволены, адна я, чаго я жадаю!... Якая гэта Марыля нячулая... Ен сьміяўся з мяне!... Ен!....

— Але досыць! Трэ, класьціся спаць.

Прыстаўляе да ложка стол. На стол ставіць фатаграфію. Перад фатаграфіяй сьвечку.

Разьдзяваецца. Хоча ўжо загасіць сьвечку. Але падумаўшы, падносіць сьвечку бліжэй да групы і глядзіць і глядзіць на Вярыгу, быццам прабуючы адгадаць ягоныя думкі.

Прайшло поў-гадзіны. Сьцюдзёная дрыготка прабегла па яе целе. На голыя плечы ўскінула хустку. Глянула ў люстра.

— Якая я сёдня харошая—пранясло ся ў яе галаве.

Загасіла сьвечку. Стала маліцца: „Божа, пашлі супакой маёй душы".—

Нараніцы маці разбудзіла яе.—Уставай аглядацца! Мы пойдзем бульбу капаць.—Іра ўстала, узялася за працу, і не агледзілася, як ізноў прыйшоў вечар. А з вечарам прыйшла і туга.

Прыехалі з поля ацец, маці, сёстры; начали ссыпаць бульбу ў склеп. Доўга чула Іра, як сыпалася бульба і думала: „На цэлую зіму хопе бульбы і ўсяго, а ці хопе ў мяне сілы перажыць гэтую зіму".

Селі вячэраць. Гутарылі аба ўсім.

— Чаму гэта Аня засталася такой, як была, а ты, Іра, усё-роўна, як чужая.

— Яшчэ, мама, не аддыхнула пасьля Вільні...

— Кінь Вільню, ня думай, у нас ляпей: і малачко ёсьць, і мяса, і хлеб".

— Ах, мама, я і ня думаю зусім.

. . . . . . . . . . .

Ізноў Іра адна. Села на ложку, падперла твар рукамі і думае.

Успомніла яна, як прыехала з курсаў улетку пабачыцца з бацькамі.

Вылезла з чыгункі. Адразу пахнула на яе сьвежым сялянскім паветрам. Ад станцыі да вёскі ня было балей поўвярсты. Ішла яна міма палёў. Жыта было ўжо пажата. Затрымалася каля свае палоскі. Бача, ляжыць падкова, новая бліскучая.

— Маё шчасьце, ускрычэла, падняла.—Але далёка цягнуць, падумала, палажу пад мяжу. Мо' шчасьце ад мяне не ўцячэ. Я-ж на дарозе ня кідаю. Заўтра прыйду, прынясу.

Пайшла далей. Вось і вёска. У млыне людзі. Сьпяшаецца..

Ужо яна і на панадворку.

. . . . . . . . . .

Днём Іра усё хадзіла ў гарод. Навакол такая цішыня. Сонца пячэ ўжо не па летнему. На душы ў Іры так сама цішыня і упакой. Яна садзіцца на мяжу.

— Як прыемна, як прыемна, шапоча! Ня хочацца думаць ані аб курсах, ані аб Вярызе.

Хадзіла з сястрой купацца. Апавядала ёй пра Вільню, пра курсантаў, пра жыцьцё ў інтэрнаце.

Адноўчы, так сама пайшла з сястрой на раку. Купаліся хлапцы, трэ, было чакаць. Лягла на траву. Засвула. Ува сьне бачыць, быццам ужо вярнулася ў Вільню. Прыйшла на лекцыі. Усе так радасна сустракаюць яе. Вось ходзе яна па калідоры з сяброўкай. Бача—на сустрэчу ёй ідзе Вярыга.

— Скажа, „дабрыдзень", ці не, падумала.

Але глянуў на яе сваймі, поўнымі жыцьця й сілы вачыма,—і нічога не сказаў...

Іра прачнулася.

— Хлопцы ўжо пакупаліся, пойдзем, сказала сястра.

Але ні купаньне, ні сьмех не маглі разварушыць Іры. Яе пацягнула у Вільню. Пастанавіла ехаць назаўтрае. Ехала з ёй сяброўка і два знаёмыя хлапцы.—Селі ў вагон.

— Вечаром будзем у Вільні, абачу Вярыгу, падумала. Вочы яе сталі блішчэць, вусны радасна ўсьміхацца.

— Ня ведаю, кажа да яе Сяргей, што гэта з вамі, Іра, сталася. У вас такі выгляд, як быццам вы ніколі бяды ня бачылі.

— „Вярыга, Вярыга, пяяла нешта ў душы Іры, а радасьць набягала на твар.

— „Гляджу я на вас і не магу згадаць, чаму гэта вы так шчасьліва усьміхаецеся.

— „Ня ведаю, ня ведаю, адказавала Іра, а ў душы нешта пяяла: зара абачу, зара абачу.

— „Вашыя вочы дзьве шчасьлівыя зоркі, вашыя вусны—рожа чырвоная, хто гляпе на вас, на вашыя вочы, адразу забудзецца свае нягоды.

— Што ў вас на душы? Аб чым вы думаеце?

Іра закрывае твар рукамі і шчасьліва ўсьміхаецца, а у ёй нешта пяе: „Вярыга, Вярыга, зара абачу. Абачу, ня вытрываю, памру ад шчасьця".

На першую лекцыю Іра спазьнілася. Ходзе па калідоры падруку з сяброўкай. Гутараць. Падымае Іра вочы—насустрэч ей ідзе Вярыга. Стройны, дзёрзкі, харошы, як заўсёды. Вачоў з Іры ня спушчае. Прайшоў, ані слова не сказаў.

. . . . . . . . . . .

Ішла Іра па вуліцы. Раптам чуе, як нешта сьвідруе яе да касьцей. Абарочуецца—стаіць за ёю Вярыга, глядзіць, быццам хоча спаліць сваймі вачыма.

. . . . . . . . . . .

Сядзіць Іра на лекцыі. Прыслухаецца да выкладу профэсара. Раптам чуе, як нехта кратае яе за каслаўкі валасоў. Вярыга... Пачырванела. Хоча раззлавацца..., але сядзіць, як скамянелая. Слова ня вымавіла.

. . . . . . . . . . .

І гутарыла і жартавала Іра з усімі слухачамі. Не магла толькі пазнаёміцца з Вярыгай.

Харошы, стройны,... вочы, як ноч неразгадная,... валасы чорныя, кучаравыя... у руках мандаліна... Дзёрзкі, мілы і вельмі прынадны, быў Вярыга Іры богам, якому пакланялася здалёку.

Таіла Іра сваю любоў ад усіх..., але ўсе аб ёй загаварылі...

І ўспамнела цяпер Іра, седзячы на ложку, сваю адзіную гутарку з Вярыгай. Гутарка была кароткая, шорсткая, ня вельмі прыемная абаім. Пастанавіла высьцерагацца яго. Толькі тады падымала на яго вочы, калі ён ня ведаў аб яе прысутнасьці. Любоў усё балей захоплявала яе душу. Сумна й цяжка было ёй.

Перастала хадзіць на лекцыі.

Забывалася крыху Іра толькі ў гутарках з адным слухачом курсаў, Керчэцам. Родам із Слуцка, быў Керчэц вялікім патрыётам-беларусам. Сваімі апавяданьнямі начаў ён будзіць у Іры другую вялікую любоў, што драмала ў ёй — любоў да Бацькаўшчыны і патрэбу ўсе сілы свае душы аддаць на карысьць свайго народу. Іра горача ўхапілася за гэтае пачуцьцё. Бачыла ў ім свой ратунак. Ведала, што толькі ў такой працы знойдзе забыцьцё і будзе чэрпаць сілы на далейшае жыцьцё. Як даўней із страхам, так цяпер з радасьцяй чакала канца курсаў. Хацелася ёй хутчэй у вёску, хацелася школы й працы... Хацелася хутчэй пазбыцца чараў-каханьня...

. . . . . . . . . . .

Іра ачхнулася. Чорная запраўднасьць ізноў стала прад вачыма.

— Трэба ходацца, трэба шукаць выхаду, сказала Іра сама сабе.

Але ці знойдзе? Ці не зламаецца яе крохкая душа аб перашкоды, каторыя заўсёды стварае жыцьцё?

АЛЬФОНС ДОДЭ.

# Козачка пана Сэгэна.

Пану Сэгэну аніяк ня ручыла на козы.

Колькі ён іх ня меў, усіх траціў аднолькавым спосабам: у вадну харошую раніцу яны перарывалі вожы і ўцякалі на гару, а тамака іх еў воўк. Ані пяшчоты гаспадара, ані страх перад ваўком—ніштo іх ня ўтрымлявала. Гэта, здавалася, былі козы незалежныя, якія за ўсялякую цану жадалі прастору й волі.

Добры пан Сэгэн, каторы зусім ня знаўся на характары гэтых жывёлін, смуціўся бязмерна. „Кончана, казаў ён: козы не вядуцца ў мяне, я іх ня выгадую ані воднай“.

Аднак-жа ён не абезнадзеіўся канчальна; страціўшы адным і тым-жа шляхам шэсьць казаў, купіў яшчэ адну, сёмую; толькі на гэты раз прадбачліва выбраў козку зусім маладзенькую, каб ляпей было яе прылашчыць да сябе.

Ах! што-ж гэта была за прыгожая козачка пана Сэгэна. Якая яна харашая была з сваймі прыемнымі вочкамі, з сваёй падахвіцэрскай бародкай, з сваймі чорнымі бліскучымі капыткамі; з рожкамі палясатымі як у зебры, з даўгой белай воўнай, быццам апраненая ў апанчу! і потым такая рахманенькая, ветлівенькая, так упакойна давалася даіцца, ніколі не абярнула дайніцы; любата, а ня козачка..

У пана Сэгэна ззаду дому была загарадка, абсаджаная дрэноўнікам. Сюды вось ён й засадзіў сваю новую гадуніцу. Ен яе наважаў на калочак убіты на лепшым месцу сенажаткі, старанна адпусьціўшы як мага балей вяроўкі, і час ад часу прыходзіў паглядзець, ці добра ёй тут. Козка чулася вельмі шчасьлівай і гэтак ахвотна скубла травіцу, што пан Сэгэн захопліваўся, як малы.

„Нарэшце, думаў бедны чалавек, я лучыў на казу, якой ня будзе скучна ў мяне“.

Але пан Сэгэн памыляўся, ягонай козцы было скучна.

Аднаўчы яна сказала сама сабе, паглядаючы на гару:

„Як там, на тэй гары, павінна быць хараша! Як прыемна скакаць па верасе бяз гэнай праклятай вяроўкі, якая абдзірае скуру на вашай шыі!... Гэта добра аслу ці валу пасьціцца ў загарадцы!... Козам-жа, ім трэба прастору“!

І адгэнуль трава ў загародцы зрабілася ёй нясмачнай. Яе агарнула туга. Яна пахудзела; малака пачала даваць мала. Шкада было на яе глядзець, як яна ўвесь дзень выцягавалася на сваёй вяроўцы, з галавой абернекай у бок гары, і як з растапыранымі ноздрамі увесь час жаласьліва крычэла: мэ-э-э!...

Пан Сэгэн добра прыкмячаў, што ягоная козачка нешта мае, але ён ня ведаў, што гэта такое... Аднае раніцы, калі ён скончыў яе даіць, яна абярнулася да яго і прагаварыла на яго простай мове:

„Слухайце, пане Сэгэн, я сохну ў вас. Пусьцеце мяне на гару“.

— Ах! Божа-ж мой!... І яна таксама! закрычэў зьдзіўлены пан Сэгэн.

І раптам дайніца вывалілася з ягоных рук... Потым, сеўшы на траву ля сваё козкі, ён прагаварыў:

„Як, Сапажанка, ты хочаш мяне пакінуць“?

Сапажанка адказала:

„Але, пане Сэгэне“.

— Ці-ж травы табе ня хапае тут?

— О, не! пане Сэгэне.

— То можа ты наважана занадта каротка; ці ня хочаш, каб я прывязаў балей вяроўкі?

— Ня варта хватыгавацца, пане Сэгэне.

— Тады чаго-ж табе трэба? Чаго ты сабе жадаеш?

— Я хочу пайсьці на гару, пане Сэгэне.

— Але, няшчасная, ты ня ведаеш, што на гары ёсьць воўк... Што будзеш ты рабіць, як ён прыйдзе?..

— Я яму дам рагамі, пане Сэгэне.

— Воўк сьмяецца толькі з тваіх рогаў. Ен у мяне паеў козаў, якія й ня так біліся рагамі, як ты... Ты-ж добра ведаеш старую Ранату, што была ў мяне летась? маладзец каза, моцная й злая, як казёл. Яна білася з ваўком усю ноч... але ўсё-жткі нараніцы воўк яе ўзяў.

— Чорт! Бедная Раната!... Гэта нічога, пане Сэгэне, пусьцеце мяне на гару.

— Божа Міласьлівы! прастагнаў пан Сэгэн: але што-ж гэта робіцца з маймі козамі?... І яшчэ адну воўк зараз зьесьць... Але ну-ж, не.. я цябе выратую, пройда, супроць тваёй волі, а каб ты ня парвала вяроўкі і ня зьбегла, я зачыню цябе ў хлеў і буду заўсёды ў ім трымаць“.

І пан Сэгэн зацягнуў козку ў зусім цёмны хлеў і замкнуў яе там, павярнуўшы двойчы ключ. На няшчасьце, ён забыўся прычыніць вакно, і толькі пасьпеў ён адыйсьціся, як козка выскачыла...

Калі яна прыбегла на гару, усё наўкола ёй ўзрадавалася. Ніколі яшчэ старыя хвоі ня бачылі што-небудзь харошшае, за яе... І яны яе сустрэлі і прынялі як маленкую каралеву. Каштаны схінуліся да самае зямлі, каб папесьціць яе канцамі сваіх галінаў. Залацістыя жоўтазёлы рашчы-

ніліся ёй па дарозе і запахлі так хараша, як толькі маглі. Уся гара зрабіла ёй сьвята.

Няма балей ані вяроўкі, ані калочка... ніштo не перашкаджае ёй скакаць, скубсьці траўку, як ёй хочацца... Вось дзе яна мае травы! вышэй сваіх рог... І якой травы! Смачной, пяшчотна-фарботавай, складаючайся з тысяча расьлінаў... Гэта зусім ня тае, што дзірван у загарадцы. А краскі-ж!... Вялікія сінія званочкі, ярка-рожавыя наперсьцянкі з даўгімі чарачкамі,—цэлы лес красак, выпушчаючых прынадныя сокі!..

Беленкая козачка, як напалову п'яная, валялася тут на сьпіне, з нагамі да гары, і качалася па адхонах, як ні папала, разам з лісьцем, упалым з каштанаў. Потым, раптам, ўздрыгавала і адным скокам станавілася на ногі. Гоп! і вось яна выцягнуўшы шыю, панеслася цераз паляны і кусты то на востраверхавіну гары, то у глыб лашчыны, у гару, у лог, усюды... Можна было падумаць, што на гары было дзесяць козаў пана Сэгэна.

І зусім ня мела ніякага жаху Сапажанка!

Яна адным скокам пераскокавала цераз вялікія быстрыя ручніны, якія яе апырскавалі вадзяным пылам і шумой. Калі з яе цурком цякла вада, яна расьцягавалася на якойнебудзь скале і сушылася на сонцу... Раз, падыйшоўшы да скраю нейкага ўзвышша, з лістом лазьняку у зубах, яна абачыла далёка-далёка на доле, у самым нізе роўнядзі, дамок пана Сэгэна з загарадкаю ззаду. Гэта-ж яе прымусіла сьміяцца да сьлёзаў.

„Які ён маленькі, жаласны! І як я магла быць у ім“?

Бедненькая. Усьпінуўшыся высака, яна думала, што яна прынамся таксама вялікая, як сьвет.

Наагул, гэта быў адзін прыгожы дзянёк для козачкі пана Сэгэна! Каля поўдня, скачучы туды й сюды, яна наткнулася на чараду сэрнаў, што зьбіраліся сваймі харошымі зубамі грызьці дзікае вінаградзьдзе. Наша маленькая скакуха ў белай вопратцы зрабіла ўражэньне, і ёй адступілі найлепшае месца у вінаградзьдзі.

Раптам пахаладала у паветры. Гара пачала рабіцца лілёваю; наступаў вечар... „Ужо!“ прагукала маленькая козачка, і яна спынілася на месцу, вельмі зьдзіўлёная.

На доле палі патопнулі у густым тумане. Загарадка пана Сэгэна шчэзла ў змроку, а ад дамка відаць было толькі дах, над якім курыўся невялічкі дымок; козачка чула званочкі статка, што варочалася з пашы і душу яе ахапіў смутак... Белазор, варочаючыся дамоў, няўзнак зачапіў яе сваймі крыльлямі. Яна затраслася... Потым даўгое-даўгое выцьцё працягнулася па гары.

„Ау-у-у! ау-у-у!“

Яна зараз-жа прыпомнела ваўка; за ўвесь дзень дурная не падумала аб ім ані разу... У гэны момант далёка-далёка ў лагчыне пратрубіла труба. Гэта добры пан Сэгэн выпрабоваваў астатні спосаб. каб апамятаваць няшчасную.

„Ау-у-у! ау-у-у!...“ выў воўк.

„Вярніся! вярніся!...“ гукала пастырова труба.

Сапажанка спачатку хацела вярнуцца; але, успомнеўшы кол, вожы, плот у загарадцы, надумалася, што цяпер яна можа ўсьцерагчыся ўсяго гэтага, і што ляпей застацца...

Труба балей ня трубіла...

Козачка пачула ззаду сябе шомаст лісьця. Яна абярнулася й абачыла ў змроку двое кароткіх, проста стаячых вушоў, з вачыма, што блішчэлі... Гэта быў воўк.

Вялізны, непарушны усеўшыся на свой зад, ён быў тут і разглядаў беленкую козачку, наперад смакуючы яе мяса. Ен не сьпяшаўся, бо добра ведаў, што ён яе зьесьць; як яна абярнулася, ён пачаў толькі злавесна сьміяцца: „Га-га-га! маленкая козачка пана Сэгэна!“ і правёў сваім даўгім чырвоным языком па атрутных губах.

Сапажанка пачула, што яна згінула... У першы момант, успомнеўшы гісторыю старой Ранаты, якая білася з ваўком усю ноч да раніцы, маленкая козачка падумала, можа ляпей адразу аддаца ваўку, але потым, адумаўшыся, стала ў абарону, прыгнуўшы галаву і выставіўшы рогі наперад, як адважная каза пана Сэгэна, якою яна была... ня дзеля таго, што яна мела надзею забіць ваўка—козы ня забіваюць ваўкоў—а толькі дзеля таго, каб пабачыць, ці зможа яна прадзержацца гэтак доўга, як Раната...

Вось воўк падышоў, і маленкія рожкі пусьціліся ў скокі.

Ах! адважная козачка! Як яна з усёю душою кінулася ў бойну! Балей дзесяцёх разоў яна змушала ваўка адступаць, каб перадыхнуць. Пад час гэных кароткіх ваддышаў ласушка зрывала жвавенька яшчэ маладзенькія парасьці сваёй любімай травіцы і потым ізноў з поўным ротам кідалася ў бойну. Гэтак цягнулася ўсю ноч. Час ад часу козачка пана Сэгэна, кідала зіркі на мігаючыя ў чыстым небе зоркі і думала: „Толькі-б прадзержацца да золаку!“

Зоркі адні за аднэю пагасьлі. Сапажанка падвоіла свае вытні рагамі, а воўк зубамі... Слабое мікценьне паказалася на небасхіле. Ад хутара данеслася асіплае пяяньне пеўня. „Нарэшце!“ прагаварыла бедная жывёлінка, якая нічога ня чакала, як толькі дня, каб памерці; і яна расьцягнулася на зямлі ў сваёй прыгожай белай скуры, усёй запляменай у кроў...

Воўк кінуўся на маленкую козачку і яе зьеў.

З францускага пераклаў **Я. Ц.**

Д.-МАСАЛЬСКІ.

## Аб Ліцьвінох і Беларусах у Браунсбэргскім сэмінары 1578—1798.

У сёлетнім № 7 „Przegląd'у Wileńsk'ага“ п. Latovicus падаў ведамасьці аб Ліцьвінох і Беларусах Браунсбэргскага сэмінара ў Нямеччыне, каторыя ён выбраў з кнігі „Die Metrikal des päpstlichen Seminars zu Braunsberg 1578—1798 *), нядаўна выданай проф. др. Юрыем Люрам (Georg Lühr).

Даведаваемся, што ў гэным сэмінары ў вышменаваным часе вучылася такжа значне сэмінарыстых Ліцьвіноў і Беларусаў. За 220 гоц з муроў Браунсбэргскага сэмінара вышла „балей як 1400 сэмінарыстых, а ў гэтай лічбе звыш 150 Базыліянаў“. Іншымі словамі, што Базыліянаў было ня меней 10 процэнтаў усіх сэмінарыстых, а пэўне, што значная часьць, калі ня большасьць, Базыліянаў былі Беларусы (бо часьць Базыліянаў магла быць Украінцамі).

Пры адных прозьвішчах браунсбэргскіх сэмінарыстых ёсьць азначэньні нацыянальна-гаспадарсьцьвеныя—Lithuanus, Ruthenus, Livo, Esto, Finlandus, Polonus і г. д., пры іншых іх нямашака. Latovicus уважна й навукова выбраў і падаў у „Prz. Wil.“ прозьвішчы Ліцьвіноў і Беларусаў.

„Беларусы, кажа Latovicus, былі ў Браунсбэрзе галоўна пасярод студуючых тамака Базыліянаў. Гэтак сустракаем тут прозьвішчы: Fr (ater) Theophilus Olszenica, дыякан, Базыліянін, Vilnensis. Як Ruthenus catholicus выступае ў кнігах маладзён Petrus Parcewski (Парчэўскі) ex alumnatu Vilnensi... Fr. Polycarpus Grecovic, Basilianus, Vilnensis, гуманісты.—P. J. Josephat Brazyc (Bražyc?—Д.-М.), Basilianus, з Вільні, вучыўся ў Менску, потым у Браунсбэрзе; быў ігуменам сьцягу манастыроў. Дзеля красамоўства называны **другім Хрызостомам**. Умер in opinione sanctitatis ў 1683 г. F. Georgius Molejewski, Базыліянін з Піншчыны. Вучыўся ў Браунсбэрзе, потым in Collegio Gracco ў Рыме. Казальнік у Вільні, архімандрыт у Жыровічах, напасьледак тытулярны архіўладыка смаленскі. Умер у 1696 г. Fr. Ignatius Szycyk, Базыліянін (Шыцік). Fr. Hyacintus Sirkiewicz, Januasius Ohurcewicz, Базыліянін, patria Vilnensis, in dioecesi Vilnensi, Fr. Michael Grotus, Базыліянін (Гроцкі), Fr. Bernardus Minkiewicz ex dioec. Viln., Martianus Jamuntowicz Баз., ex dioec. Viln.—Беларусам быў Philippus Wołodkowicz ex dioec. Viln., родам з Навасёлак пад Менскам. Ігумен, віцэ-рэгенс, архімандрыт, холмскі ўладыка, напасьледак мітрапаліт. F. Julianus Woronicz, Баз., Беларус з Полацку (Polocia), Antonius Jotko, Баз., Gennadius

(* Monumenta Historiae Warmiensis, 30 і 31. Lief. Band. XI—2+3, стар. 212.

Paszkowicz, Баз., V(enera bilis) F(rater) Benedictus Bulharyn' Баз. з вайводзтва навагарадзкага, V. F. Theodorius Szuyski, Баз. із Слонімшчыны (пасьлей ігумен у Дарагабычу, напасьледак апостальскі адміністратар кіеўскае мітраполіі), V. V. Joannes Strumito (Strumiło?—), Баз... Hieronymus Jodziewicz, Баз".

Калі пры прозьвішчу стаіць азначэньне Lithuanus, ex Lithuania (Ліцьвін, з Літвы), Samogita (Жмудзін), дык такіх сэмінарыстых Latovicus уважае за Ліцьвіноў у цяперашнім значэньню гэтага слова і надрукаваў іх у сваім артыкуле асобна. Ня можа быць сумлеву, што Samogita—гэта цяперашні Ліцьвін або Жмудзін, але можна сумлявацца, што слова Lithuanus у матрыкулах мае тое самое значэньне, што цяперака, а не азначае Беларуса.

Каб разабрацца ў гэтым, я выпішу ўсіх Lithuanos з артыкулу Latovic'а пры гэтым дзеля яснасьці на перадзе пастаўлю базыліянаў:

„Адзэй з найвыдатнейшых літоўскіх асобаў быў у Браунсбэрзе Nicolaus Korsak, Lit., каторы па філёзофічных студыях паступіў у Базыліяны, будучы ў мніхі прыняты Руцкім. Протоархімандрыт, далей уладыка галіцкі, потым пінскі, напасьледак мітрапаліт кіеўскі.. Умер у 1641 ў Рыме... Пахаваны тамака-ж у касьцеле сьв. Сяргея й Бакха, на эпітафіі відаць грапскі тытул.

Побач з ім у сьпіску Fr. Paulos Lit. Баз.. Да высокіх дастаенстваў дайшоў Fr. Martianus Białozor, Ord. S. Basilii, Lit... philosophus. Родам з Вілкамерскага пав. Быў архімандрытам у Вільні, потым уладыкай у Пінску, напасьледак архіўладыкай у Полацку. Fr. Gedeon Odrowski, Lit. Баз.. Пазьнейшы дастойнік касьцёла, Fr. Laurentius Sokolinski, Lit., dioecesis Vilnensis. Гэта Базыліянін Друцкі-Сакалінскі, тытулярны архіўладыка смаленскі, умер у 1727. Fr. Polycarpus Mihuniewicz, Lit., dioec. Viln. Папарадку: ігумен, протоархімандрыт, архіўладыка—назначаны ў Смаленск, але не пасьвячаны. Умер у 1753 г. Fabianus Błażewicz, Lit. dioec. Viln. (Базыліянін?), V. F. Josephus Oleszkiewicz, Lit., Баз.

Martinus Cest, Lit., Stanislaus Solokai, Lit. (звольнены за непаслухмянасьць), Joannes Roncius, Lit. (умер будучы ксяндзом у Літве), Adamus Michaelowitz (прозьвішча крыху нячытальнае) Vilnensis (!), звольнены як disciplinae incapax)... Georgius Tomkiewicz, Lit, Martinus Skrocky, Lit.; Joseph Pirczewski, Lit., Michael Zienicki, Lit., Georgius Giedroyć, Lit... Як сумлеўны Ліцьвін ёсьць у матрыкулах Wladislaus Horda, rhetor. Ladislaus Snarski, Lit., Josephus Barwidowicz, Lit. (пазьней вікары ў Рэтаве на Жмудзі), Joachimus Skirmund (быў потым ксяндзом), Innocentius Stefanowicz natione Lituanus, patria Vilnensis in dioecesi Vilnensi, Ignatius Myrswinski,

Owitensis (?) ex Lithuania, Josephus Gudowicz, Lit., Stanislaus Adamkowicz, Lit., Ignatius Balserowicz, Lit. (працаваў потым як ксёндз у Курляндыі)“.

Гэт'кім парадкам на ўсіх 26 Ліцьвіноў ёсьць ажно 8 базыліянаў, блізу што трэцяя часьць. Калі й дапусьціць, што лацінынікі Ліцьвіны паступалі ў базыліяны, аб чым дагэтуль ня ведама, дык усё-ж такі гэт'кі вялікі процэнт мніхаў **усходніх** для народу з абрадам **лацінскім** немагчымы.

Зацемлю яшчэ, што з пасярод „Жмудзіноў“ у матрыкулах браунсбэргскіх ні водзін базыліянін ня знойдзены. А тым часам калі-б „Ліцьвіны“ браунсбэргскія раўняліся Ліцьвіном цяперашнім, чаму-бы Жмудзіны не паступалі ў базыліяны?

З гэтага відаць, што базыліянаў-Ліцьвіноў браунсбэргскіх мусім залічыць не да літоўскага, а да беларускага народу.

Запраўды, што прымусіла Latovic'а залічыць гэных восем базыліянаў да літоўскае народнасьці, калі іншых базыліянаў, дзе няма азначэньня „Lithuanus“ і наагул **жаднага нацыянальнага азначэньня нямаш**, ён залічае да Беларусаў? Ясна, што прымусіла да гэтага вылучна гэнае азначэньне „Lithuanus“. Але-ж ведама, што ў мінуўшчыні звычайна як самі Беларусы так і чужнікі Беларусь называлі Літвой, Беларусаў—Ліцьвінамі а мову беларускую—мовай літоўскай. У малой меры гэтыя назовы захаваліся на'т дзагэтуль. *)

З гэтага вынікае, што як „Базыліяне Ліцьвіны“ таксама і ўсе „Ліцьвіны“ Браунсбэргскага Сэмінара былі паводле цяперашняе тэрмінолёгіі Беларусамі. Гэтаму не перашкаджае, што базыліянін „Ліцьвін“ Белазор„ быў родам з Вілкамерскага павету“, бо, прынамся як ураднікі, Беларусы ў Літве (цяперашні назоў) мусілі быць. За тое за гэта прамаўляе ведамае месца паходжаньне некаторых „Ліцьвіноў“ (прыкладам ведама, што род Карсакоў паходзіў з Дзісеншчыны) і прозьвішчы шмат каго з іх; апрача прозьвішчаў з характэрнымі беларускімі канчаткамі на—**іч** і меней **характэрнымі** на—**скі**,—**цкі**, маем прозьвішчы з яснымі беларускімі ці наагул славянскімі асновамі: Michaelowitz (у літ. мове няма x) Horda, Mihuniewicz (у літ. мове няма **h**), Białozor, Sokolinski, Oleszkiewicz.

---

*) Напрыклад: у слоўніку Памвы Бэрынды 1627 і 1653 г. г. чытаем: „Пѣтелъ: Ческі і рускі (=украінскі—**Д.-М.**) когут. Волынскі пѣвень. **Литовски—пѣтухъ**; катыхізіс Лаўрына Зізанія, надрукаваны ў Маскве 1627 г., мае гэт'кі назоў: „Катихизис, **по литовски оглашеніе**, русскимъ же языкомъ нарицается Бесѣдословіе“. Цяпер украінскі й расейскі просты народ завуць пагранічных Беларусаў Ліцьвінамі, хоць беларускія землі, пагранічныя з землямі этнографічна-расейскімі, былі толькі некалькі дзесяткоў год або зусім ня былі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага.

Дзеля таго што ў Браунсбэргскіх матрыкулах толькі ля часьці ўсіх прозьвішчаў ёсьць азначэньне нацыянальнасьці, дык 26 Беларусаў з прыведзеных Latovic'ам гэтае азначэньне свае нацыянальнасьці маюць („Lituani“), другія 18 яго ня маюць, адзін азначаны як Ruthenus catholicus, але дзеля яго адзіноства можна думаць, што гэты „Русін-каталік“ быў заежджы ў Вільню Украінец.

М.

# Найвялікшы гені „матэматычнага веку“—Ісаак Ньютон.*)

*(Радзіўся ў 1643 г., памер у 1727 г.).*

17 век асабліва захопляваўся матэматыкай ды спарадзіў найвялікшых матэматыкаў сьвету. Бо-ж тады пачынаецца асабліва ўдачная праца людзкога розуму над вывучэньнем прыроды, каторую так сьветазарна-рэлігійна асьвяціў Сьпіноза.

Вызваліўшыся з сярэднявечных путаў, людзкі розум пачуў, якую вялізарную сілу дае точны матэматычны спосаб дасьледу для вывучэньня ды падпарадкаваньня сабе прыроды.

„Мы валадаем сіламі прыроды, казаў слаўны ангельскі філёзоф пачатку гэтага веку Бэкон, наколькі мы ведаем яе законы“. Але законы прыроды, каб запраўды валадаць ёй, трэба выразіць якраз точнай матэматычнай формулай. Сам Сьпіноза аддаў дань гэтаму захопленьню веку, уладжыўшы нават сваю „Этыку“—„геамэтрычным спосабам“.

З усіх лічных матэматычных геніяў веку найвялікшым быў ангелец Ньютон, на магільным помніку якога добра напісана: „Таму, хто перавысіў розумам увесь людзкі род“.

Ньютон быццам завяршыў працу цэлага раду гэтых геніяў, зрабіўшы вялізарнай вагі адкрыцьці ў галінах матэматыкі, мэханікі, фізыкі й астраноміі,—канчальна разьбіўшы ўсю пабудаваную „на аўтарытэце Біблії й Арыстотэля“ наіўную „навуку“ Сярэднявечча ды залажыўшы непахільныя падставы навуковага сьветапагляду Новага Часу.

Паводле Бібліі ды так званай „сыстэмы сусьвету Птолемэя“, зямля ёсьць непарушная ў цэнтры сусьвету, а сонца, плянэты ды зьвезды ходзяць навакол зямлі, трымаючыся неяк на „нябеснай цьвярдзіні“,—быццам на вялізарнай вышыні ды шырыні столі ў касьцеле... З гэтай „навукай“ сплямалася яшчэ „навука“ старэйшая, што йшла з даўнейшай Бабілёніі ды мела магутны ўплыў на ўсё жыцьцё на-

*) З цыклю „Вечна-жывыя нябешчыкі“—з прычыны сёлетніх угодкаў.

родаў аж да нядаўняга часу—астралёгія. Астралёгія вучыла, што на „небасхіле“ тайнапіснымі „літарамі зьвездаў“ напісаныя лёсы ўсіх людзёў на зямлі, якія можна пазнаць, калі добра навучыцца чытаць ды разумець гэтыя—пісаныя Самым Богам „словы“...

Цяпер мы ведаем, што гэта—няпраўда ды забабон, але яшчэ зусім нядаўна—бо нават у пачатку XVIII веку—каралі, князі ды іншыя важныя паны трымалі пры сваіх дварох вучоных астралёгаў, каторыя павінны былі ўкладаць ім „праўдзівыя гараскопы“ іх жыцьця, ці папросту—па зьвездах прадказаваць ім будучыню.. Астралёгамі былі нават найвялікшыя вучоныя XVI й XVII веку: Мэлянхтон, Ціха-Брагэ, Кэплер, Бэкон і інш.

Увесь сусьвет сярэднявечнаму чалавеку прадстаўляўся, як вялізарны „гадзіньнік“, накручаны самым Богам, які жыве над усімі 8 нябёсамі, дзе прымацаваны ды круцяцца зьвезды, ды стуль **зьвездамі**—кіруе жыцьцём ды лёсам усяго на зямлі...

„Зьвезды кіруюць людзьмі, а Бог кіруе зьвездамі; дык зьвезды слухаюць Бога, а Ен уступае малітвам добрых людзей“... Гэткім чынам, Бог, пераставіўшы парадак зьвездаў, зьмяняе лёсы людзей на зямлі... Так сплялася старэйшая бабілёнская астралёгія з хрысьціянствам. Дзіва, што такая вера страшэнна цікавіла людзей, прыцягуючы ўвагу вучоных да дасьледаў над усім, што робіцца на небе.—Дык з „навукі“ астралёгіі спарадзілася пасьля ўжо точная навука астраномія—шляхом тасаваньня матэматыкі.

Царква, што непадзельна панавала над душамі людзей і даволі толеранцыйна асуджала астралёгію, сама была зацікаўлена працай над вывучэньнем зорнага неба. Справа ў тым, што на астранамічных дасьледах базавалася азначэньне дня сьвята Вялікадня, зьвязанае з днём павароту сонца на лета (21 сакавіка паводле новага стылю). Недакладнасьць таго, што ведала тагачасная навука імсьцілася на недакладнасьці каляндара наагул. Так, напрыклад, розьніца між запраўдным днём веснавога сонцавароту ды каляндарным у пачатку XVI веку дайшла ўжо да 10 дзён. (ведама, што ў нашыя дні гэта розьніца дасягнула аж 13 дзён,—гэта-ж і ёсьць розьніца між старым і новым стылем). І вось, шукаючы прычынаў гэтае розьніцы, вучоныя дзеля таго ўсё дакладней вывучалі рухі зораў на небасхіле.

Але гэтыя рухі плянэтаў ды зьвездаў—з пункту гледжаньня цэнтральнага палажэньня непарушнай зямлі—стваралі такую блытаніну, у якой разабрацца было зусім немагчыма.

Калі адзін з каралёў (у Гішпаніі) склікаўшы найлепшых вучоных таго часу (у XIII в.), каб яны нарысавалі дакладную карту рухаў галоўных плянэтаў на небе, паглядзеў на

апрацаваную імі карту (за якую заплаціў ім 400 тысячаў чырванцоў!), дык, ня вырываўшы, сказаў: „Шкада, што Бог, творачы сьвет, не паклікаў мяне ў парадніккі: я-б парадзіў яму зрабіць усё значна прасьцей“... Дадамо, што гэтыя неасьцярожныя словы каштавалі каралю яго пасаду.

————

У канцы 15 веку нямецкі вучоны, паляк з паходжаньня, Капэрнік адрадзіў (ведамую яшчэ грэцкім астраномам III веку да Нарадзінаў Хрыста) думку—аб тым, што ня сонца навакол Зямлі, але зямля як і ўсе іншыя плянэты круціцца навакол сонца ды яшчэ і навакол сябе. Гэтая думка адразу зрабіла ясьнымі ўсе рухі плянэтаў. Цяпер гэтую думку разумеюць нават дзеці. Але вось паслухайце, як асуджалі гэтую „бязбожную гэрэзь“ галавы абедзьвюх Цэркваў, што панавалі тады на Захадзе—Лютэр ды рымскі Папеж.—Лютэр, па выхадзе кнігі Капэрнікавай, пісаў:—„Дурны гэны хоча перавярнуць да гары ўсю астраномію Бібліі, кажучы, быццам круціцца ня сонца, але зямля. Але-ж у Бібліі Ісус Навін выразна кажа: „Стой, сонца над Гаваонам“. І сонца стала. Дык ясна, што круціцца сонца, а зямля, як і ўвесь сусьвет, стаіць цьвёрда й непарушна“...

Рымскі Папеж у 1616 г. зацьвердзіў такі прысуд над думкай Капэрнікавай:—„Казаць, быццам зямля не стаіць непарушна ў цэнтры сусьвету, але што яна круціцца навакол сонца ды яшчэ і навакол сябе, гэта недарэчна й фальшыва ў філёзофічным сэнсе ды зьяўляецца гэрэзяй у багаслоўі,—бо-ж яўна пярэчыць Сьвятому Пісаньню“.

Кніга Капэрнікава была забаронена ды спалена, а сам ён здолеў усьцерагчыся ад „лагоднай ды бяскроўнай кары“ на кастры ад рукі „сьвятой інквізыцыі“ толькі дзеля таго, што, пратрымаўшы 30 гадоў свой рукапіс схаваным, памер над першым карэктурным лістом яго выданьня—ў 1543 г...

Вынаход тэлескопу (такая прылада, зложаная быццам з некалькіх вялізарных акуляраў, якая дае магчымасьць відзець нават нявідомыя голаму воку найдалейшыя зьвезды на небе) раскрыў перад зьдзіўленым вокам астраномаў—нязьлічаную колькасьць новых зораў, аб якіх ня было на́т успамінуў „сыстэме Птолемэевай“. Гэты вынаход, зроблены адначасна ў Галяндыі і знамянітым фізыкам Галілео ў Італіі, дазволіў дакладней дасьлядзіць і аблічыць рухі плянэтаў і канчальна сьцьвярдзіў думку Капэрнікаву ды пахаваў „сыстэму Птолемэеву“. Над галавой сярэдзінявечнага чалавека быццам трэснуў ды заваліўся гэты „цьвёрды небасхіл“, пад якім так быццам цёпла ды бясьпечна трымала зямлю сярэднявечная навука, а над якім у сваім харошым райскім Палацы жыў Сам Бог, рупячыся адтуль аб людзёх..

Перад спалоханым вокам чалавека адкрылася жудасная круцігалоўная заваротная думка—аб бесканечнасьці сусьвету, так спрытна закрытай апякунчым Касьцёлам Сярэднявечча. Гэтая ідэя бесканечнасьці, што так страшыла ў канцы Сярэднявечча, зьяўляецца галоўным знаком, характэрызуючым навуковы сьветапагляд **Новага Часу**.

Ідэю Капэрнікаву падхапіў, зрабіўшы з яе ўсе філёзофічныя вывады, італьянскі мысьліцель Джордано Бруно. У харошай, поўнай філёзофічнага палёту ды паэтыцкай фантазыі, кнізе ён даў абраз гэтага бесканечнага сусьвету, у якім Зямля—ня большая, як дробны пылочак, дзе далёкія, ледзь відомыя зоры,—запраўды ёсьць вялізарнымі сонцамі, навакол каторых, так сама, як і ў нашай „сонцавай сыстэме", ходзяць свае плянэты, як наша Зямля ды іншыя... Няма ніякай „нябеснай цьвердзі", але ўсё ў Сусьвеце—у вечным руху—паводле точных, дадзеных Богам законаў—ды ўсё жыве, як жывы ёсьць безграні[чны], бесканечны боскі Сусьвет. Гэты вялізарны Арганізм, мае Сусьветную сваю Душу, якая і ёсьць—Бог. Гэтак пісаў Джордано Бруно. Ведама-ж, што „Сьвятая інквізыцыя" толькі й чакала, каб аўтар гэткіх гэрэтычных думак лучыў у яе рукі... А злавіўшы яго, як ведаем мы, спаліла яго жывым, бо ён станоўка адмовіўся адрачыся ад гэтых сваіх гэрэтычных думак..

Проці новай тэорыі паўсталі ня толькі князі, Папежы ды біскупы, але й самі вучоныя астралёгі тых часоў, якім прасьціня ды яснасьць новай „сыстэмы сьвету"—адбірала хлеб. Аднак новая матэматычная думка лепшых геніяў веку ўсьцяж ішла наперад, даючы новыя даводы раскрытай праўдзе. Нямецкі астраном Кэплер 1571—1630), прыняўшы цалком думку Капэрнікаву, выразіў рухі плянэтаў—у точных матэматычных законах. Сама Сярэднявечная Царква, перасьлядуючы новых мысьліцелеў, адначасна змушана была цаніць вартасьць новых астраномічных дасьледаў. У 1582 г. Папеж Юры XIII—на падставе новых аблічэньняў—зрабіў ведамую рэформу календара, каторая палажыла пачатак **новага стылю**, бяспрэчна правільнейшага, як **стары**, што на 13 дзён „астаецца ад сонца"..

Так пакрысе, памалу йшло заваяваньне ў сьвеце праву грамадзянства Думкай Новага Часу. Найлепшыя галавы ўсіх краёў вельмі зацікаўлююцца наагул новай навукай аб Прыродзе. Найразумнейшыя каралі, князі ды прыватныя багатыры не шкадуюць грошы на навуковыя прылады й дасьледы. Ствараюцца вучоныя Акадэміі ў сталіцах усіх культурных гаспадарстваў, у якіх духоўна лучацца між сабой вучоныя—у адзівую „рэспубліку філёзофаў", паводле словаў Лейбніцавых.

І вось, у выніку гэтага духоўнага ўздыму, пасьля паўтаравяковай навуковай працы—зьяўляецца, як найвялікшы гені веку, Ньютон, які злучыў усе гэтыя адарваныя думкі, дасьледы, аблічэньні, законы, даў усяму гэтаму вялізарнаму матар'ялу, здабытаму асобнымі вучонымі, вымаганае навуковай мысьляй **адзіноства сыстэмы сьвету.**

———

Што ўсе плянэты ды зьвезды круцяцца ў сусьвеце бяз жадных „падпорак"—ходзяць у прасторы па матэматычна сталых ды точных шляхох, гэта астраномы ўжо сьцьвярдзілі дакладна. На падставе сваіх вылічэньняў астраномы маглі ўжо прадказаваць розныя нябесныя зьявішчы, як зацьменьне сонца ці месяца, і гэтыя прадказаньні збываліся—з точнасьцяй да мінуты. Але вучоныя ня ведалі толькі, чаму ўсё гэта робіцца ў сусьвеце так, а ня інакш, чаму дый якой сілай трымаюцца ўсе гэтыя нябесныя целы на тэй ці іншай адлежнасьці адно ад другіх, чаму ходзяць па такіх, а не па іншых арбітах. *) „Навуковы дух" Новага Часу ўжо нездаволяваўся балей тымі адказамі, якія давала на гэта Царква, пазываючаяся на агульную—„немагчымасьць пазнаць волю Божую". Новая навука наадварот вымагала дасьледу выясьненьня ў форме агульнага матэматычна выражанага закону, які згары дае чалавеку магчымасьць дасьлядзіць ды прадказаць гэтую „волю Божую"—у рухах зьвездаў ды наагул—ува ўсіх зьявішчах на зямлі ды на небе.

І вось Ньютон даў такі найагульнейшы закон, які дзее ў сусьвеце—на ўсім яго няшчысьлёным, бесканечным прасторы, закон, якому аднолькава падлягае вялізарнае сонца на небе як і найдрабнейшы пылок на зямлі. Гэта—з а к о н с у с ь в е т н а г а п р ы ц я ж э н ь н я.

Гэты закон сусьветнага прыцяжэньня матэматычна фармуляваў якраз тую самую ідэю сусьветнага адзіноства, якую адчулі ды кінулі людзкасьці—Джордано Бруно ды Сьпіноза.

Расказуюць, быццам Ньютон дадумаўся да гэтага закону, бачачы, як зваліўся з дрэва на зямлю яблык. „Чаму-ж ён зваліўся ўніз на зямлю, але не паляцеў у гару!", папытаў ён сам сябе.

„Значыць—зямля неяк цягне яго да сябе". Тады ён пачаў рабіць дасьледы ды спробы з рознымі целамі ў розных варунках, і, разважаючы над імі, дайшоў да агульнага закону, які даў цьвёрдую падставу й сыстэму ўсёй астраноміі, адначасна залажыўшы новую, амаль што не цалком створаную Ньютонам, навуку—м э х а н і к у, ці навуку аб руху ды сілах, якая ляжыць у васнове ня толькі астраноміі

*) Дарога ў паветру, па каторай цела ходзе.

фізыкі ды хіміі, але ёсьць агульнай падставай усяе сучаснае матэматычнае прыродаведы. Астраномія сталася „нябеснай мэханікай“.

Гэтыя свае адкрыцьці Ньютон вылажыў у найвялікшым сваім творы „Матэматычныя падставы філёзофіі прыроды“.

„Пасьля Ньютона сьвет перастаў быць няскладным зборам загадак, капрызаў ды дзіваў прыроды. Наадварот—усё ў ім дастала адзіноства, набрала разумнага ладу, сэнсу і—натуральнай неабходнасьці. Усё—ад вялікага да малога згодна падпарадкавалася простым, сталым ды непахільным законам“.

Але, апрача гэтага галоўнага адкрыцьця, Ньютон зрабіў вельмі шмат іншых—у галіне чыстай матэматыкі, мэханікі й фізыкі. Адначасна з зьнямечаным славянінам Лейбніцам адкрыў ён новы спосаб матэматычнага аблічэньня,—так званы „спосаб бесканечна-малых вялічынеў. Гэты новы спосаб даваў магчымасьць тасаваць матэматыку да разьвязаньня такіх задачаў, якія дагэнуль лічыліся неразьвязальнымі. Як вывучэньне прыроды, так сама будова чалавекам розных машынаў ды прыладаў—з тасаваньнем гэтага новага нязвычайна точнага спосабу дайшла нячуванай дасканальнасьці. Тасаваньне матэматычнага аналізу наагул давала навуцы Новага Часу такую сілу й уладу над прыродай, якіх ня ведалі ўсе былыя цывілізацыі, ня вылучаючы і найвышэйшай з іх—грэцка-рымскай, што—ня ведала гэтай новай матэматыкі. Нас дзівяць цяпер такія зложныя ды точныя машыны-мэханізмы, як гадзіньнік, паравоз, самаход, самалёт і да г. п. Дык трэба ведаць, што без матэматыкі ня можна ступіць ані кроку ў фабрыкацыі гэтых усіх дзіваў нашага часу.

З паміж іншых слаўных адкрыцьцяў Ньютона ў фізіцы укажам расклад бясколернай (белай) сонцавай коскі—на „простыя“ колерныя коскі, ствараючыя так званы „спэктр сонца“ (прыраўнуй ведамую кожнаму вясёлку). Ньютон даў дакладнае высьвятленьне ўсяму адкрытаму ім зьявішчу. Важнасьць гэтага адкрыцьця Ньютонавага відаць хаця-б з таго, што далейшае вывучэньне гэтага „спэктру сонца“ прывяло да цэлага раду вялізарнай вагі адкрыцьцяў—у фізыцы, хіміі, астра-фізыцы, фізыёлёгіі, мэдыцыне і г. д. Паміж іншым так званы „спэктральны аналіз“ у хіміі даў магчымасьць сьцьвярдзіць—запраўды-ж аднолькавы хімічны склад усіх зьвездаў на небе, якія ўсе маюць тыя-ж хімічныя элемэнты, якія маем мы на зямлі. Гэтым яшчэ раз пацьвярдзілася думка Джордано-Брунова, Сьпінозава й Ньютонава—аб адзіностве сусьветнае цэласьці... У васобе й працах Ньютонавых навуковы дух Новага Часу даказаў

усю сваю праўду і сваю магутнасьць,—апраўдаў усе тыя філёзафічныя ды паэтыцкія спадзевы, якімі распачаўся новы вялікі ўздым людзкога жыцьця ад часу Адраджэньня.

Гэтымі вялікімі перамогамі, падпарадкуючымі чалавеку Прыроду, ён заклікаўся да актыўнай, творчай працы на зямлі. У працы гэтай навука рабілася яму магутнай саюзьніцай, забясьпечуючай усе новыя дасягненьні. Чалавек заклікаўся быццам самым Богам—да паляпшэньня свайго лёсу тут на зямлі, якая выказавалася зусім не такой ужо „Богам пакінутай ды праклятай", як гэта цьвярдзілі сярэднявечныя біскупы ды мніхі, што не забываліся пры гэтым дадаць, што гэтае „пракляцьце" у кожным асобным прыпадку—гуртам ці ў розьніцу могуць зьняць толькі яны адны.. І гэтая перамога над прыродай, гэтае паляпшэньне жыцьця на зямлі яшчэ балей уздымала сьветлае, радаснае, актыўнае самапачуцьцё чалавека Новага Часу, давала яму сьведамасьць свае сілы, вызваляла яго з-пад улады цёмных ложна-вер'яў ды з пад усялякага роду рабства.. І калі чалавек зразумеў, што ўсё гэта дабро фізычнае й духоўнае творыцца на зямлі бяспынна-актыўнай, разумнай, навукова-узгадаванай працай чалавека, дык ясна яму стала, што адзіным запраўдным панам сябе ды валадаром усяе зямлі павінен быць гэты—вольны, сьведамы сваіх правоў і абавязкаў, асьвечавы навукай, маральна ўзгадаваны рабачай і тварэц жыцьця й шчасьця на Зямлі!

Так—у неразрыўнай сувязі з агульным кірункам гістарычнага развою людзкасьці ўздымаецца перад ім—сьветлы ідэал будучыні-Царства Вольнае Працы!...

Ньютон быў сын простага селяніна-земляроба; рана страціў бацьку. Добрая разумная, энэргічная матка здолела даць здольнаму хлапцу добрую адукацыю, а хутка сам ён, стаўшы на ўласныя ногі, прайшоў вышэйшую школу дый сам стаў знамянітым вучоным, першым з усіх на сьвеце.

---

## Адказ п. Z. з „Беларускае Крыніцы".

У № 24 газ. „Беларуская Крыніца" зьмешчаны даволі вялікі артыкул нейкага п. Z., які з „сумам" і гневам закідае „Родным Гоням" зьмяшчэньне такіх шкодных, „раскладаючых" артыкулаў, як „Вечна Жывыя Нябошчыкі" (Барух Сьпіноза), а аўтара артыкулу вельмі няпрызваіта лае за тое, быццам той—„меў сьмеласьць падаць чытачом — абсалютна фальшывае паняцьце аб каталіцтве і—дужа скрыўленае—аб Сьпінозе".

Закіды вельмі цяжкія, калі-б яны запраўды мелі падставы ды былі чым небудзь даведзены крытыкам. Разьбіраць усе гэтыя „цяжкія", але так лёгка кіданыя ня сур'ёзным кры-

тыкам, закіды мы ня маем тутака месца. Аб тым, што такое за ўстанова была сярэднявечная інквізыцыя, мы манімся пасьвяціць асобны артыкул. Цяпер дамо толькі паняцьце нашым чытачом,—аб „умысловасьці“ нашага крытыка і— „сумленнасьці“ яго крытычных спосабаў.

Трэба наагул сказаць, што Беларуская Хрысьцянская Дэмакрацыя, каторай органам, здаецца, усьцяж застаецца „Б. Крыніца“, магла выбраць для абароны сваіх вартасьцяў наўперад—разумнейшага адвакатэ. Гэты „Advocatus Dei“ бароніць ад аўтара артыкулу.... каталіцкасьць, аб якой той ня пісаў ані воднага слова...

Аўтар пісаў толькі мімаходам аб сярэднявечнай (каталіцкай) Царкве, якая мела тады палітычную ўладу ў Эўропе, страшна надужываючы—пэўна-ж з яўнай шкодай ня толькі дзеля развою культуры, але і дзеля запраўднага хрысьцянства—гэтую ўладу праз розныя свае—„судова“-паліцэйск я ўстановы, якой была паміж іншым і „сьвятая інквізыцыя“. Паданыя аўтарам факты ведамы кожнаму вучню з падручнікаў гісторыі. Ці-ж п. Z. лічыць „фальшам“ тое, што Джордано Бруно быў спалены жывым—толькі за яго харошую, запраўды-ж паэтыцка-рэлігійную кнігу, дый яшчэ ў самай сталіцы Рымскага Папежа, яго асабістай „судовай калегіяй“, прысуд якой зацьверджаны быў самым Папежам?! Дык хай тады п. Z. падасьць знойдзеныя ім дакумэнты, запярэчуючыя гэтаму: можа тады ўсе школьныя падручнікі на ўсім культурным сьвеце будуць зьменены ў пажаданым для яго кірунку. Падаючы пэўне-ж без усялякай спозьненай „злосьці“ ці „ненавісьці“ гэтыя і да іх падобныя агульна прызнаныя факты даўнейшай гісторыі, аўтар нідзе не казаў, што гэта—каталіцтва, як з дзіўным „розумам“ закідае яму гэты няўдалы абароньнік апошняга.. Дык дамо паняцьце аб тым, як гэты не па розуму заўзяты адвакат „бароніць“ сярэднявечны Каталіцкі Касьцёл і... надужыцьці яго інквізыцыі... Ен кажа літаральна—„каб сабраць гэтыя ўсе надужыцьці і несправядлівасьці, якія нарабіла інквізыцыя за ўвесь час гісторыі ўва ўсіх краёх, дык гэта.. „дасьць шмат менш ахвяраў, як бальшавіцкія расстрэлы „контр-рэвалюцыянэраў“ уваднэй Расеі (за) некалькі гадоў“... Вось, гэта дык—ясна Пэважаны абароньнік сярэднявечнага Каталіцкага Касьцёлу і яго інквізыцыі бачыць між гэтай апошняй і бальшавіцкай „Чрэзвычайкай“—толькі лічбовую, колькасную, але ня якасную розьніцу...

Ня ведаю, ці прыемна будзе для Каталіцкага Касьцёлу наагул, як для „адзінай у часе й прасторы ўстановы“, гэткая „абарона“ яго—дагэтуль, як сьцьвярджае сам абароньнік, існуючай установы...

Можам, з свайго боку, толькі падзівіцца сьмеласьці гэткага прыраўнаньня з боку „Бел. Крыніцы“.—Бо-ж „В.Ч.К.“, ці „Г. П. У.“, гэта—баявы офэнзыўны (наступальны) і абаронны орган страшнага, руйнуючага пэрыяду Рэвалюцыі, дыктатуры пралетарыяту і г. д., орган „чрэзвычайной“ улады ненармальнага крывавага часу... Дык раўнаваць яго, да сталай установы, што існавала ў розных аспэктах, як сьцьвярджае сам аўтар,—і ў 1229, і ў 1479, і ў 1542 гг..., што дзеяла цэлыя доўгія вякі, ды—як-ні-як—ад імя Хрысьціянскае Царквы на Заходзе, гэта, трэба прызнаць,—значна балей, за тое „фальшывае паняцьце аб каталіцтве“, якое закідае „абароньнік“ апошняга аўтару... Гэткага няпрошанага „абароньніка“ трэба прызнаць запраўды-ж небясьпечным, але не таму, ад каго, але таму, каго ён „бароніць“...

Ня меней „гэрэтыцкае“, а наўперад—сьведчучае аб поўнай філёзофічнай „нявіннасьці“ п. Z.,—яго дзіўное цьвярджэньне, быццам Сьпінозава азначэньне Бога, як „субстанцыі“, — якраз і „ёсьць тэза хрысьціянсва-каталіцкай філёзофіі“... Дагэтуль—пакуль п. Z. не напісаў свае „рэвэляцыйнай“ зацемкі ў багаслоўска-аўтарытэтным органе Беларуск. Хрысьц. Дэмакрацыі,—мы ўсе думалі, што хрысьціянскі Бог азначаецца—як „Тры-адзіная Істота“, ці Асоба, ці „Над-Асоба“ якая з нічога стварыла сьвет, а каталіцкая афіцыяльная філёзофія заўсёды падчыркавала гэты, як кажуць „трансцэндэнтны“—патустароньні характар Бога, сурова асуджаючы ўсе, такія магутныя асабліва па Сьпінозе, уплывы, калі не пантэізму, дык так званага „імманэнтызму“, ці—такой думкі аб сусьвеце, паводле якой Бог—Нешта „распушчанае“—жывучае ў Прыродзе, як яе Душа... Яшчэ зусім нядаўна Папеж Піус Х асудзіў так званы „модэрнізм“, магутны рух у сучасным каталіцтве, рух, на якім ляжыць пячаць уплыву рэлігійных інтуіцыяў Адраджэньня й Сьпінозы.

Але што робіць ужо проста комічным гэтага няўдалага абароньніка „каталіцкай філязофіі“ побач з Сьпінозай, якія быццам маюць аднолькавую „асноўную тэзу“ аб Богу, дык гэта—тое, што ён нават ня ведае аб тым, што „Этыка“ Сьпінозава, як і ўсе яго іншыя творы бяз вынятку, былі—відаць, за гэтую „аднолькавасьць тэзы“—зараз-жа па выхадзе ў сьвет праклятыя Каталіцкай Царквой, дый зьмешчаны на так званы—„індэкс“ ці—сьпісак тых кнігаў, якія Касьцёл забараняе нават чытаць сваім верным сыном!. (Глядзі Дэкрэты 13.III.1679 г. і 29.VIII.1690 г.). Дый, пэўна-ж, творы Сьпінозавы і дагэтуль яшчэ ня выкасаваны з індэксу!

Дык ясна, што ідэнтыфікаваць асноўную „тэзу каталіцкай філёзофіі“ з азначэньнем Сьпінозавага Бога—проста

цямнота. З гэтага відаць, што п. Z. вельмі мала памагае тое, што ён... „мае перад сабой“ кніжку Сьпінозы: трэба яшчэ прыгатавацца да таго, каб яе чытаць...

Не займаючы ўвагі нашых чытачоў далейшым разглядам „рэцэнзыі“ п. Z., выкажам пажаданьне, каб беларускае каталіцтва выбрала больш разумнага, спакойнага й прызваітага абароньніка сваіх вартасьцяў.

П. Z. закідае аўтару „злосьць“, „гнеў“, „ненавісьць“, „дурнату“, „фальшы“, „ілжу“ і г. д. — З гэтага аднаго „палямічнага“ стылю адразу, ня кажучы ўжо аб усім вышпаданым, відаць, каго „асьляпляе ненавісьць ды даводзіць да фальшаваньня праўды“..., відаць, каму варта—ня толькі „мець перад сабой“, „Этыку“ Сьпінозаву, але і мець у сабе этыку наагул...

**Той-жа**

---

РАМАН СУНІЦА.

# Аб беларускай народнай эстэтыцы.

(*Спроба характэрыстыкі*).

Беларуская народная эстэтыка й мастацтва, як мастацкае пачуцьцё і выяўленьне яго ў творах пераважна бядняцкіх і серадняцкіх пластоў сялянства,—галіна найменш дасьледаваная. Падкрэсьліваем: **сялянства**, бо індывідуальная творчасьць мастакоў не ўваходзіць у паняцьце „народнага мастацтва“, а заможная частка сялянства арыентуецца на буржуазію і ня мае сваёй акрэсьленай формы ў здаваленьні і выяўленьні мастацкіх пачуцьцяў. Зразумела, што паміж паасобнымі соцыяльнымі групамі істнуе пэўны ўзаемны ўплыў: адны ад адных пераймаюць, што ім падабаецца. Тое самае наглядаецца і паміж колектыўным народным мастацтвам і мастацтвам сучасным, так сказаць, індывідуальным. Мы бачым, які вялікі ўплыў мае народны орнамэнт у сучаснай творчасьці нашых мастакоў у Усходняй Беларусі, нацыянальных па форме і пролетарскіх па зьместу. Формы народнага мастацтва, прысвоеныя і перапрацаваныя мастакамі, ідуць ізноў на вёску ў відзе плякатаў, аздобленых кніг, сьпеваў і г. д., каб здаваляць эстэтычныя патрэбы вёскі.

Нашае народнае мастацтва ня менш багатае за іншыя галіны творчасьці народу, што даводзіць мастацка багатая, орыгінальная і самабытная вопратка, ткацкія і ганчарныя вырабы, аздобы хаты і рэчаў хатняга ўжытку і г. д., на

якіх часта ёсьць старажытныя прымітыўныя вузоры, якія можна напаткаць на гаршчкох з дагістарычных курганоў Беларусі. Мастацтва гэтае не самамэтнае, а цалком прыкладное і прасякае ўсё буднае жыцьцё народу, складаючы багаты, але амаль яшчэ зусім нявыкарыстаны матар'ял для дасьледаваньня.

Нажаль, творы народнага мастацтва яшчэ не сабраны ні музэямі, ні краязнаўчымі організацыямі, а таксама не адбіты ў выданьнях, калі ня лічыць двух віцебскіх кніжачак аб крашаніне, ды некалькіх артыкулаў, якія, паміж іншым, датыкаюцца і гэтага пытаньня. Багацьце-ж беларускага народнага мастацтва—бязьмежнае, і толькі прывычка і блізкасьць да яго робіць тое, што мы і не зварачаем на яго належнае ўвагі. Успомнім хоць-бы абрадавыя звычаі, казкі, легенды, музыканцтва, танцы, сьпевы, малярства, разьбу, ганчарства, вопратку, пісанкі, крашанкі, аздобы з кветак, выразкі з паперы і ім падобныя рэчы. І ўсё гэта адрозьніваецца ад індывідуальнага мастацтва, або яшчэ больш ад „мастацтва для мастацтва". Да жаху апошняга селянін часамі да мастацкага малюнку прыпне шкляныя бліскучыя пацеркі, разьбу падпяража палатняным фартушком, песьню перарве ў сярэдзіне і г. д. Да таго селянін ня мае вялікай патрэбы адрозьніваць паасобныя віды мастацтва, прыкладам чаго можа служыць зьмешваньне сумнага сьпеву з вясёлым танцам, разьбы з малярствам, ды, ўрэшце, яркіх фарбаў з колёрамі, якія як-быццам зусім не падыходзяць да агульнай гармоніі. І, наадварот, вельмі паважна і жыва выяўляецца імкненьне селяніна да ўвядзеньня мастацтва ў жыцьцё, як адзначалася вышэй. На гэтай аснове **ужытковасьці** выступаюць ужо ня толькі прымітыўныя дагістарычныя зачаткі харaства, а сталая творчасьць з формальнымі дасягненьнямі ў адмысловым часаньні сваіх дзьвярэй у хатах і варотах, у вузорыстым маляваньні сваіх кублоў, палічак, скрынь, каўшоў, у цудоўным тканьні паяскоў, посьцілак, дыванчыкаў, абрусоў і кілімаў, у фарбаваньні, набіваньні і друкаваньні тканін, у аздобах хат, у формах і аздобах адзежы, у фарбаваньні пісанак, маляваньні крашанак і г. д. Тое, што селянін хціва зьбірае творы або рэпродукцыі мастацтва, як рэчы не ўжыткоўнага, а станковага мастацтва, і любіць іх,—зусім не даводзіць моманту „мастацтва для мастацтва".

Селяніну падабаецца ўсё **простае**; складанае, багатае элемэнтамі, мучыць яго вока. У плястыцы ён вымагае формаў выразных, у музыцы толькі мэлёдыі, у поэзіі—лёгкае фабулы. Адценкі, паўтоны ды сучасныя зложныя компазыцыі яму мала або зусім недаступны.

Колеры і фарбы ў народнай эстэтыцы маюць самае галоўнае і пануючае значэньне. Селянін цешыцца найбольш

характвом фарбаў. Таму, напр., у адзежы, дзе перадусім за ўсё выяўляецца пачуцьцё эстэтыкі, белая і іншыя вясёлкавыя фарбы складаюць амаль што ўсё, а крой ды форма—рэчы другарадныя. Пад той час, як у іншых галінах народнае творчасьці—музыцы і поэзіі—сялянства мала выяўляе імкненьня да навін, у галіне фарбавых уражаньняў яно выяўляе сталы поступ у новых дасягненьнях, і калі не даходзіць яшчэ да маляўнічасьці, дык дае колёрытнасьць. Тлумачыцца гэта тым, што ўспрыйманьні шыбка мінаюць і лягчэй забываюцца, бо да іх няма такога рэальнага і сталага пабуджэньня, якое дзеець на зрок.

Народныя рэчы заўсёды вельмі яркія. У поэзіі—учынкі ды пачуцьці адналітыя, у музыцы й танцах—рытміка, найбольш моцная і жывая, у колёрытнасьці—яркасьць зыркая. Амаль не адчуваецца патрэба гармонізацыі, лагоднасьці ды пераходнасьці фарбаў і гармонічнага злучэньня іх, не разумеецца калейнасьць сонечнага спэктру і да т. п., а, наадварот, наглядаецца імкненьне мець контрасты, нязгодныя паміж сабою ды лішне яркія злучэньні. Фарбай найбольш спакойнай і чыстай ёсьць белая, найбольш улюбленая ў сялян. Фарбай найбольш яркай ёсьць чырвоная, якую сялянства і ўжывае з ахвотаю, стаўляючы побач кармазыновую, цаглянную ды ружовую. У гэтым тыповым выпадку селянін дбае аб тое, каб фарбы былі яркімі, зьвярталі ўвагу. Як у аркестры бубен і талеркі, так і ў маляваньнях жывая яркая стракатасьць найбольш прыпадае да спадобы, ды найбольш прыгожай фарбай у вопратцы, апрача агульна прынятай белай, лічыцца чырвоная. Характэрным прыкладам у гэтым выпадку зьяўляюцца чырвоныя каралі, якія вельмі любяць на сяле і за якія плацяць часамі вялікія грошы, ня гледзячы на сваю беднасьць.

Наагул, народныя эстэтычныя імкненьні поўны прастаты; графічна выражаючыся, яны просталінейныя і напружана-вузкія, дык дзеля творчасьці бяруць з акружаючага прастору першыя з краю элемэнты, асабліва суворыя фарбы, і ўраз-жа імі арудуюць, захапляючыся беласьцю ды чырваньню.

У гэтым сялянская эстэтыка мае шмат падобнага ды супольнага з першабытнай эстэтыкай і эстэтыкай дзіцяці. Археолёгія і гісторыя мастацтва, з аднаго боку, ды псыхолёгія дзіцяці—з другога, награмадзілі ў гэтым кірунку шмат цікавых даных.

Да гэтага трэба далічыць і ўцяканьне ад пусткі, асначае на тым, што ўся плашчыня рысунку запаўняецца орнамэнтам, звычайна крывымі лініямі, і ніколі не пакідаюцца пустыя палі. Так было ўжо ў кераміцы мікенскай,

так ёсьць у рысунках дзяцей, таксама ёсьць ва ўсіх нашых народных матывах-узорах. Адваротнае мы знаходзім у малярстве адраджэньня, сучасным імпрэсыянізьме, малярстве японскім і да т. п., дзе мастак раскашуецца ў вольных прасторах.

Сюды-ж адносіцца і кшталтаваньне ўсяго на ўзор чалавечага, або зьвярынага цела. Гэта ва ўсіх галінах з цягам часу вытварыла прыгожыя мастацкія рэчы. Прыкладам гэтага, асабліва пазьней пашыранага агульнага імкненьня, можа быць гліняная пасудзіна накшталт галавы чалавека ці зьвера. Пасудзіна гэта як-ніяк не дзеля дасканаласьці формы, а дзеля самага факту нагадваньня жывое формы, вельмі падабалася старажытнаму грэку, падабаецца дзіцяці, а таксама і нашаму народу.

Далей зварачае ўвагу недахоп ценяваньня ў народных рысунках. Але вядома, што аб ценях ня думае ў сваіх рысунках ані старажытны эгіпцянін, ані дзіця.

Прырода грае нязначную ролю ў эстэтыцы першабытных людзей. Клясычным у гэтым кірунку прыкладам ёсьць неадрозьніваньне фарбаў у Гомэра, або няўжываньне матыву сонца ў шмат якіх народаў у працягу цэлых сталецьцяў. З прыроды і цяперака народ мала што бярэ: тое, што гаворыцца аб прыродзе, ня ёсьць глыбейшым дасьледаваньнем яе, але, можна-б сказаць, трактаваньнем ці адносінамі з гары. Дзеля гэтага мотывы прыроды ў старажытных, у дзяцей, у нашага народу выходзяць наагул убога ў працівагу да мотываў і да дзеяльнасьці індывідуальных мастакоў. Апошнія, наадварот, прыроду цэняць і, дзякуючы ей, даюць ў-ва ўсіх сталецьцях вялікае багацьце мастацкіх твораў.

У адносінах да фарбаў трэба адзначыць, што ў беласьці ды ў чырвані кахаюцца як дзеці, так і дарослыя. Асабліва белая вопратка ў беларускага народу, ды чырвоная ў-ва ўсей гісторыі чалавецтва маюць надзвычайнае значэньне, прычым тлумачыцца гэта імкненьнем задзіўляць другіх блескам і сілаю аднолькавасьці колеру.

Гэтыя некалькі думак ды разважаньняў аб народнай беларускай эстэтыцы павінны нагадаць патрэбу як найхутчэйшага зьбіраньня нашымі музэямі і краязнаўцамі як рэчаў народнага мастацтва, так і поглядаў на яго дзеля дасканалага вывучэньня закранутага пытаньня.





Беларуская Гімназыя ў Вільні. Вучнёўскі аркестр.

С. П.

# Да пытаньня аб асноўных прынцыпах навучаньня й узгадаваньня ў пачаткавай беларускай школе.

(Глянь кніжку трэцюю „Род. Гонеў“).

З боку праціўнікаў працоўнае школы я прадбачу закід, што за фізычнаю працаю, экскурсыямі не застанецца месца на занятк̇і ўласьцівай граматай, што дзеля навіні справы і нашай непрыгатаванасьці мы нічагусенькі не навучым, толькі скалечым дзеці. Але гэты закід ня мае значэньня, бо адначасна мы вымагаем зьмены амаль ня ўсіх мэтодаў навучаньня, што панавалі дагэтуль у старой школе, як не адпавядаючых пэдагогічным вымаганьням і не даючых патрэбнага рэзультату. Гэтым мы зробім вялікую экономію часу, каторы вучыцель і зможа выкарыстаць на экскурсыі, фізычную працу і г. д. І запраўды, трэ' толькі прыпомніць, колькі дарма прападала ў старой школе часу, такога дарагога й патрэбнага, з прычыны непэдагогічнасьці спосабаў навучаньня. З асабістага дазнаньня пры адведзінах народных школаў у 1913—1915 г. г. магу назваць такія прыклады: у некаторых школах вучні сядзелі на лемантару цэлых два гады, у той час як пры правільнай пастаноўцы элемэнтарнага чытаньня й пісаньня можна яго прайсьці за два-тры месяцы, не балей. На арытмэтыцы на першым дзесятку сядзелі часамі цэлы год, калі тут працы на месяц. Пісаньне элемэнтаў, літараў, асобных слоў без патрэбы паўтаралася не дзесяткі, а цэлыя сотні разоў. А колькі адыймала часу памятная ўсім дыхтоўка? Даволі й гэтых прыкладаў, каб бачыць, што можна шмат выкраіць часу на экскурсыі, фізычную працу, бяз шкоды заняткам граматаю. Я кажу: калі ўвясьці новыя, лепшыя мэтоды, калі старанна праводзіць прынцыпы акономіі часу, дык вызваліцца ня меней як палова таго часу, каторы раней затрачаваўся на ўсё вучэньне ў школе. Калі, кажу, мы хочам узгадаваць у сваіх школах другое, новае пакаленьне, дык павінны грунтоўне пératварыць увесь лад школы, перабудаваць яе зьверху да нізу, на новых асновах.

Але—гатуючыся да працы ў новай роднай працоўнай школе, мы не павінны зачыняць вочы на тыя перашкоды, якія стаяць на гэтым шляху. Перш-на-перш, у нас пакуль што няма самае школы. Але... яна будзе, бо блізка трыміліённы народ нашае часьці Беларусі ня можа ня мець свае роднае школы, ня можа ня мець яе народ, які што

раз галасьней выяўляе сваю волю да жыцьця. Па другое, у нас вямаш прыгатаванага ў паказаным кірунку вучыцелства. Але.. абы добрая воля працаваць і дабівацца сваіх правоў і ў нас нястачы вучыцялёў ня будзе. Колькі ўжо было беларускіх вучыцельскіх курсаў і кожны раз ня было, як кажацца, адбою ад жадаючых быць слухачамі на курсах. Кадры беларускага вучыцелства далёка яшчэ ня выкарыстаны. Далей няма ў нас ані дазнаньня ані ўзораў працоўнае школы, няма падручнікаў, няма адпаведнае пэдагогічнае й мэтодычнае літаратуры, няма матар'яльных сяродкаў, няма выкваліфікаваных інструктароў, няма вучыцельскіх арганізацыеў, каб узаемна памагаць адзін аднаму... Але, нічога гэтага няма, але з часам яно ўсё прыйдзе, абы толькі, кажу, любоў да свайго многапакутнага народу і добрае волі хадацца за яго шчасьце й асьвету.

Мы—піонэры беларускае працоўнае школы. Нашае заданьне пакуль што—пракладаваць першыя вехі. І мы іх пралажым, і школу родную створым. Адразу, бяз высілкаў, без барацьбы нішто не даецца. Ня трэба баяцца абмылак. На абмылках сваіх і чужых чалавек вучыцца. Мы не лятуцім аб тым, каб адразу правясьці ў жыцьцё ідэалы працоўнае школы ды паставіць адразу нашую школу на ўсю належную вышыню. Мы толькі дамагаемся station становука парваць сувязь із старою школаю, старымі мэтодамі і так-жа становука стаць на новы шлях—шлях новае працоўнае школы. Не азірацца ж нам назад, не ўскрашаць-жа старую школу! Сьмела ўперад! Выбару ня можа быць. З намі толькі тыя, хто за новую працоўную школу. Прынцыпы працоўнае школы—не фантазыя, не тэорыя. У Амэрыцы і шмат у якіх гаспадарствах Эўропы, ня кажучы ўжо аб Радах, працоўная школа ўжо даўно існуе.

Ня трэба думаць, што нашае грамадзянства, у масе сваёй консэрватыўнае, ня прызнае новае школы і ня дасьць ёй моральнага падтрыманьня і матар'яльнае помачы. Народ беларускі на 99% земляробскі, узгадаваны на фізычнай працы, і калі школа, апрача самае граматнасьці й развою, будзе даваць яшчэ карысныя ў працы селяніна ўменьні, і зьявіцца правадніком культурнага палепшаньня ў земляробскай гаспадарцы, дык ён ня зможа ня прызнаць і не палюбіць такую школу. Але тут трэба дадаць яшчэ адну ўмову—каб школа была „кроў ад крыві і косьць ад косьці народу“, г. зн. ня толькі з вонкавага свайго выгляду, а й запраўды ўсім сваім духам і ладам была народнаю школаю. А што можа забясьпечыць нацыянальны характар школы? Быт народу, яго культура, гісторыя, звычаі, усё творства народнае—вось той грунт, на якім можа й павінна тварыцца нацыянальная беларуская школа. І наш вучыцель не павінен ніколі выходзіць з гэтага грунту. Шчырая любоў

да Бацькаўшчыны, да свайго народу, да беларускае вёскі, беларускіх дзетак, гарачы спагад гаротнай долі нашага гарапашніка паможа перамагчы ўсе перашкоды на дарозе тварэньня роднае школы. У тым, што нашая школа родзіцца ў процэсе ходаньня за найаснаўнейшыя й прыродныя правы ўсякага народу—залог яе сьветлае будучыні.

К а н е ц.

---

# Баба Ксютка, дзед Тамаш паехалі на кірмаш.

НАРОДНАЯ ПЕСЬНЯ.

Запісаў у Віцебшчыне В. Багдановіч.




Баба Ксютка, дзед Тамаш
Паехалі на кірмаш.
  Як паехалі учора,— | 2 разы.
  І сягодня іх німаш. |
Пан спытаўся ў аканома:
— Чаму дзеда няма дома?
  — Паехалі на ярмарак | 2 р.
  Піць гарэлкі колькі чарак. |
Баба ўзяла ялаўцу,
Дзед астатнюю аўцу
  І суніц і чарніц, | 2 р.
  Воску хунт, грыбоў бунт. |
Распрадаўшы ўсі тавары,
Зайшлі выпіць сівой гары,—
  Зачапіўшысь ля парогу, | 2 р.
  П'яны дзед выламаў ногу. |
Аддаў бабе вожкі, пугу,
Сам-жа лёг заснуць з нядугу:
  — Нутка-ж, бабка, нутка, Ксютка, | 2 р.
  Паганяй-жа толькі хутка. |
Пакуль баба йшчэ глядзела,
Ішла кабылка, як хацела,—
  Як сплюшчыла баба вочы, | 2 р.
  Стала кабыла ў балоце. |

Ішоў злодзей па дарозе,
Спадабаў кабылу ў возе,
Узяў кабылу з хамутом, | 2 р.
Кінуў бабу з батагом.
А тут баба абачхнулась,
Туды-сюды аглянулась:
Сваім вочам не ўвярае, | 2 р.
Па аглоблях паганяе;
Пашчупаўшы,—нет кабылы,—
Крычыць дзеду, што ёсьць сілы:
— Ах ты, дзеду, ты мой дзеду,— | 2 р.
Нашай-жа кабылы нету!
— Ці ты, баба, ашалела?
Куды-ж ты кабылу дзела?
Ты-ж напераду сядзела, | 2 р.
Куды-ж, баба, ты глядзела?
— Ах ты, дзеду, ты мой дзеду,
Як да хаты я даеду?
— Хто кабылухны ня мае, | 2 р.
Пяхтурой дамоў махае!

## „Казкі і апавяданьні беларусаў з Слуцкага павету“. *)

Проф. Аляксандар Сержпутоўскі, Правадзейны Член Інстытуту Беларускае Культуры вядомы беларускаму грамадзянству сваім прадваенным зборнікам „Сказкі и разсказы бѣлорусовъ-полѣшуковъ“, каторы цяпер ужо вычарпаўся. Перад намі цяперака другі, большы зборнік. „З таго матар‘ялу, кажа аўтар, які мне тут удалося сабраць, частка ўжо надрукавана ў маім першым зборніку казак і апавяданьняў, а затым гэты сшытак трэба лічыць працягам першага, бо ў ім ёсьць казкі і апавяданьні тых самых баечнікаў, творы’якіх ужо ўбачылі сьвет“.

У зборніку надрукавана 100 казак і апавяданьняў. Проф. А. Сержпутоўскі зрабіў запісы так, як казалі ягоныя баечнікі; яму было гэта лёгка зрабіць, бо мясцовую мову беларускую аўтар добра знае, што бачым з ягонай прадмовы. Прыкладам: „Да сьмерці жонкі ён быў вясёлы ды гаваркі, якіх мала трапляецца сярод гарапашнікаў, а пасьля свайго няшчасьця—спрэсу зьмяніўся: стаў якісь пануры ды маўклівы, так, што часамі ад яго нельга было дабіцца слова.

*) Інстытут Беларускае Культуры. Матар‘ялы да вывучэньня беларускае мовы, этнографіі і літаратуры. Аляксандар Сержпутоўскі: Казкі і апавяданьні беларусаў з Слуцкага павету. 1926 г. Стар. 252. у 8°.

Але затое, як ужо пачне што небудзь расказваць, дык ужо будзе гаварыць доўга, доўга, ды так гожа, што, здаецца, слухаў-бы ўсю ноч і не захацеў-бы спаць“.

Запісы зробленыя чыста навукова. Аднак запісавацель, відаць, не заўсёды ўсе гукі добра дачуў, напару мо не зьвярнуў даволі увагі, ці падпаў пад уплыў правапісу, бо я зацеміў некаторыя няточнасьці ў запісах. Пакажу гэта на прыкладах, узятых з некалькіх старонак, каторыя я прачытаў. На ст. 1 („Цуд“) побач зь зьмякчаным **с** перад мяккімі сугукамі (зычнымі)—вы**рась**лі, **пась**піело, **сь**вяток, іе**сь**ці, каро**сь**це, знаходзім адзін раз у гэтым палажэньню **с** без абазначэньня мякчыні—**сц**яўшы. На ст. 53 апав. 24 маем **сь**нег, хры**сь**ці, назьбірала, а побач—**зв**ерху, **узл**іез, бездзіетуха. На ст. 121 („Валасны суд“) побач **св**іетак і **сь**віетак. На стар. 120 бачым **сьп**ъёк, дзе калі ацьвярдзела **п**, дык не магло астацца **с** мяккім і наадварот. На стар. 247 апав. 100 побач з—**сь**вяткуем, **сь**веткаваць, **сь**вечку, знаходзім **с**ветая, **с**меецца, карысць. Толькі ўплывам прынятага правапісу можна выясьніць, што перад **ј** і мяккімі сугукамі нідзе не паказана зьмякчэньне прыймя **з**. Прыкладам: **з** ею (247), з якою (120), **з** беды (119).

Калі зьявіліся абмылы пры запісу сугукаў, дык пэўне-ж яны ёсьць і пры самагуках.

Але наагул гэтай працаю пры філёлёгічных дасьледзінах карыстацца можна і кожны дасьледчык знайдзе тут багаты матар'ял. Апрача таго кніга праф. А. Сержпутоўскага дае багаты матар'ял дзеля пазнаньня беларускага народнага творства наагул.

*Д-р Я. Станкевіч.*

# Культурныя курсы „Родных Гонеў“.

*Адказ Прамэтэю.*

Вы прыслалі ў Рэдакцыю для друкаваньня досыць значны артыкул аб „Паэзыі Багдановічавай“. Друкаваць ня можам: недасьпелы з усіх бакоў. Каб адхінуць з боку аўтара ўсялякі закід у „староннасьці“, ці „самаволі“ Рэдакцыя зробіць—„хуткі, справядлівы“, а перад усім—публічны суд над вашай працай, адчыніўшы шырака дзьверы суду ўсім нашым чытачом.

З першых радкоў Вы рэкамэндуеце сваю веду і свой стыль вельмі адмоўна.—Вы пішаце:

„Мастацкае літэратурнае творства, як пэўна кожнаму ведама, дзеліцца на дзьве галіны: адна, гэта мастацкая

проза, другая, гэта вершы, якія самі па сабе—зьяўляюцца мастацтвам паэзыі".

Ня можа быць, каб Вы самі запраўды думалі, быццам „вершы самі па сабе зьяўляюцца мастацтвам паэзыі"... А вось, як прачытае хто тое, што Вы напісалі, дык можа наіўна паверыць, быццам кожны верш, які-б ён дрэнны-сухі ды сукаваты ня быў,—„сам па сабе зьяўляецца мастацтвам паэзыі"... Дык—ня можна-ж такім непрадуманым да канца „стылем" так неакуратна выказаваць свае думкі ды імі—ашукаваць чытачоў.

Далей.—

„Зьвярнуўшы ўвагу (на што?), мы пабачым, што прадметы, якія, гэтак кажучы, бяруцца для мастацкае апрацоўкі,—для вершаў і для прозы бяруцца розныя; гэта значыць—тое, што ў вершаванай форме бывае мастацтвам, у прозе ня можа быць у поўнай меры намастацку апрацавана".

Усё гэта, ня кажучы ўжо аб немагчымым „стылю",—проста няпраўда.

Адзін і той-жа прадмет, ці здарэньне, ці што іншае—аднолькава добра і зусім намастацку „апрацавана"—як прозай, так і вершам, калі яны, як прыймае сам аўтар, будуць—мастацкімі... Наагул, прынцыповай розьніцы між прозай і вершам, калі яны мастацкія, калі яны вольна спараджаюцца з крыніцаў творчага духу паэты, правесьці ня можна. Мастацкая проза ў шмат якіх пісьменьнікаў мае так сама свае жывыя рытмы: цэлыя кавалкі яе, цэлыя фразы, быццам акрыленыя, ірвуцца, ўзьнімаюцца з паперы, жадаючы ўлажыцца ў верш. Нядаўна адзін з апошніх дасьледчыкаў „паэтыцкага мастацтва", праскі праф. Біцільлі, які добра бачыць аснову і сутнасьць паэзыі якраз у жывым, сваім арганічным, індывідуальным рытме выслаўленьня паэты, прыводзіць вельмі цікаўныя прыклады з „дзеньніка" перапіскі розных паэтаў, дзе „проза"—настолькі рытмічна, што сама быццам ломіцца на „вершаваныя" жывыя кавалкі, якія так і просяцца, каб іх улажылі ў радкі верша... Значыць, адзін і той-жа „прадмет" можа быць апісаны, як мастацкім вершам так сама і мастацкай прозай. Есьць творы паэтаў, якія самі аўтары сьпярша пісалі „прозай", а пасьля—вершам. Урэшце ёсьць зусім добрыя мастацкія **пераклады** прозай вершаваных арыгіналаў.

Дык—ясна, што аўтар проста путае няясныя яму самому рэчы, значыць ізноў—ашукавае чытачоў.

Яшчэ—апошні прыклад.—Зараз за тым-жа аўтар піша:

„Разглядзіўшы гэтае пытаньне (дзе-ж гэты „разгляд пытаньня: Гэта-ж усяго 15-ты радок яго вузенькага першага

аркушыка...), мы бачым, што для мастацкай апрацоўкі ў вершаванай форме бяруцца пераважна думкі, а для мастацкай прозы—абразы. Нарысаваць мастацкі абраз у вершаванай форме звычайна цяжка..." і г. д.

Калі казаць аб прозе й паэзыі, дык агульна прынята дагэтуль было-ж якраз наадварот: проза азначалася, як „мышленьне паняцьцямі", а паэзыя, як—„мышленьне абразамі". І гэта, з пэўнымі агаворкамі, праўда. Гэткім чынам тут ужо аўтар проста перакручуе наадварот, бяз сэнсу, тое, што ёсьць у кожным падручніку „Паэтыкі"... А значыць—ізноў—ашукавае праектаваных „чытачоў", у чым Рэдакцыя „Родных Гоняў"—ніякага ўчасьця прымаць ня мае права... Наагул, увесь артыкул, як відаць ужо з першых разабраных намі 20 радкоў, не стаіць нават на роўні добрага вучнёўскага апрацаваньня таго, што кажацца вучыцялем у клясе. Трэба сьпярша самому павучыцца, высьветліць прадмет, аб якім пішаш, да канца сабе самому, апанаваць слова й стыль, а пасьля ўже—пісаць дзеля навучэньня іншых. Прысуд Рэдакцыі зусім не засуджуе, трэба думаць, маладога аўтара на „літэратурную сьмерць".—Зусім наадварот: хай вучыцца пісаць, хай піша сабе, хай паказуе сваім вучыцялём, хай нават прысылае ў нашу Рэдакцыю—на ацэнку. Але наш суд толькі прысуджае аўтара—на 2 гады што наймеНш—„дому паправы з абавязкавай працай" над сваім развоем.

# Лісты.

## Першы культурны здабытак.

Ня гледзячы на вялікія перашкоды, Гуртку Т-ва Беларускае Школы ў вёсцы Вялікая-Кракотка з вялікімі натугамі працы й ахвоты сяброў удалося такі здабыць той скарб, да каторага імкнуцца нашыя сялянскія масы. Гэтым здабыцьцем ёсьць бібліотэка-чытальня, каторую зацікаўлена ня толькі моладзь нашае вёскі (нават дзяўчаты) але й старыя.

Нельга прайсьці моўчкі, гледзячы на тую трудную й вялікую працу Гуртка, якім зроблена так многа таго лепшага, сьвятога для вёскі. Варта вярнуцца крыху назад і абачыць, як было раней і як ёсьць цяпер. Раней, як толькі падыходзілі якія-небудзь сьвяты, дык ня толькі хлапцы, але й малыя хлапчанята стараліся як-небудзь здабыць ад бацькі ці маткі якую залатоўку, а то й не пастыдаліся нават зlaвіць „тхорыка" (ухапіць што-колечы із збожжа) і, зрабіўшы складчыну, купіць гарэлкі, напіцца да поўнага вар'яцтва і, панатыркаваўшы кішэні гіркамі, бутэлькамі з пяском і вадою і г. д. біцца. Усё гэта было раней. Цяпер-жа з ад-

чыненьням бібліотэкі-чытальні зроблена шмат чаго накшага. Уся моладзь, як толькі пазваляе час, ідзе ў бібліотэку і там праводзе той вольны, сьвяточны час за кніжкамі і вяртаецца дамоў, не як раней з ігрышча, з разбітымі галавамі, а з лепшымі думкамі й вераю ў сьветлую будучыню. Але-ж гэтым яшчэ ня скончана. Праца Гуртка Т-ва Беларускае Школы ідзе і ў другім кірунку культуры й асьветы. На трэці дзень Вялікадня быў наладжаны спэктакль. Згулялі дзьве п'есы: „Выбары старшыні" і „Зьбянтэжаны Саўка". Хоць памяшчэньне было і ня зусім малое, дый к таму яшчэ быў дзень сьцюдзёны й дажджлівы, але глядзельнікаў на азначаную гадзіну набралася так многа, што частка іх не магла ўжо зьмясьціцца дзеля нястачы мясцоў (глядзельнікаў было каля двухсот чалавек). Былі ня толькі з бліжэйшых вёсак, але і з іншых паветаў. Гралі дасканальна, асабліва добра, былі зыграны жаноцкія ролі дзяўчатамі, каторыя першы раз ня толькі гралі, але й бачылі тэатральну працу. Сабраныя грошы пайшлі на карысьць бібліотэкі. Дык няхай-жа Кракотка паслужыць прыкладам і іншым вёскам у культурным ходаньні дзеля дабра цёмнае вёскі.

**Глядзельнік.**

**Барацьба з беларускай школай ня спыняецца.**

Усім ведама, што ў Беларусі, каторая пад Польшчаю, няма ўжо беларускіх пачаткавых школаў, што за час быцьця польскае ўлады на беларускіх землях пазачыняны й тыя школы, што адчыніліся перад яе прыходам. Але ходаньне Беларускага Народу за сваю родную школу ня спыняецца, хоць пакуль што безразультатна. Барацьба за сваю родную школу вядзецца ўжо некалькі год пад рад пад знакам складаньня даклярацыеў. Але й гэты спосаб ходаньня мясцовая адміністрацыя стараецца зьнiстожыць у карані, калі не на аснове закону—дык рознымі крутадушнымі спосабамі. Шмат гутарыць аб гэтым ня будзем, жменя ніжэй пададзеных фактаў вельмі красамоўна гавора аб тым, як шануецца закон у Польшчы.

Друкаваныя ніжэй весьці зьяўляюцца блізу што даслоўна перадрукаванымі (выкінены толькі паўтарэньні) заявамі, прысланымі ў вялікай лічбе ў Галоўную Управу Т-ва Беларускае Школы.

**Вёска Ялова, Сухапольскае воласьці Пружанскага пав.**

„14 красавіка сёлета прыйшоў да нас у в. Ялова паліцыянт Гандзер з сухапольскага пастарунку з нагляднікам школьным Макоўскім, ён-жа вучыцель вёскі Сухополь. Не заходзячы да солтыса, пайшлі яны ў карчму, дзе, выпіўшы й закусіўшы, сталі чакаць вечара. Калі сьцямнела, пайшлі

па вёсцы і, заходзячы да кожнае хаты, вымагалі партыйныя білеты „Грамады“, а калі сяляне казалі, што яны ня былі ні ў якой Грамадзе, то вучыцель і паліцыянт, лаючыся брыдкімі славамі і пагрозамі змушалі расьпісавацца на няведамай паперы, закрытай зьверху лістом чыстае паперы.

Гэтак змусілі расьпісацца: Аляксандра Кунду, сказаўшы: „Падпішыся, што ня маеш легітымацыі „Грамады“; Пётру Шырынскага („Падпішыся, што я быў у тваім доме“); Ганну Люкевічыху (што ня мае білету „Грамады“), Ульяна Януш-кевіча (так сама), А. Пілюціка (так сама), Якава Станкевіча („Падпішыся, што твой сабака ненавязаны“). У хаце Ліцьвіновіча, дзе выраслыя няпісьменыя, змусілі расьпісацца нявыраслага Пётру Ліцьвіновіча. Анупрэя Букраба (што не належа да Гуртка), нявыраслага Аляксандра Максімовіча (што ня маюць „беларускага білета“ і Паўла Гвозьдзіка („Падпішы пратакол“).

„Бачачы такую несправядлівасьць, станоўка протэстуем проці такіх вадужыцьцеў і просім Галоўную Управу Т-ва лічыць нашыя подпісы на гэнай паперы паліцыянтавай няважнымі“. (Ідуць подпісы ашуканых і іншых гаспадароў в. Ялова).

**Вёскі Кудзёўцы, Ядзейкі і Вербоўцы, Гарадоцкай воласьці, Маладэчанскага пав.**

„Мы ніжэй падпісаныя сяляне вёскі Кудзёўцы, Ядзейкі й Вербаўцы ў сьнежні месяцы 1926 г. падалі Вялейскаму школьнаму інспэктару дэклярацыі на Урадовую Беларускую Школу ў вёсцы Ядзейкі. Сёлета 28 красавіка прыехаў да нас прадстаўнік Вялейскага школьнага інспэктара, каторы—у нябыцьцё нашага паўнамачніка—пачаў адбіраць подпісы ад дэклярантаў, кажучы, што закон вымагае, каб на Беларускую Урадовую Школу падавалі дэклярацыі па два разы. Пры гэтым змушаў падпісавацца на чыстай паперы, а за адсутнага пісьменнага паўнамочніка прымусіў падпісацца другога як за няпісьменнага.

„Даведаўшыся, што закон такіх вымаганьнеў ня ставіць, мы лічым сябе абманутымі Вялейскім школьным інспэктарам дзеля яго ведамых мэтаў. Дык, прыймаючы пад увагу ўсё вышпададзенае, мы пастанавілі: 1) лічыць нашыя подпісы на чыстай паперы, дзе Вял. шк. інспэктар можа падстаўляць што захоча, няважнымі; 2) не пасылаць дзяцей ані ў польскаю ані ў польска-беларускаю школу, пакуль не дадуць нам Урадовай Беларускай Школы і 3) прасіць Галоўную Управу Т-ва Беларускае Школы пераслаць нашу заяву Міністру Асьветы і Вераў із скаргаю на такое ашуканства Вялейскага Школьнага Інспэктарыяту.

*Далей ідуць подпісы.*

Аднолькавая заява-скарга так сама з мноствам подпісаў прыслана з вёскаў Тытыры, Даўгулі і Зьвяркі, Гарадоцкае воласьці, Маладэчанскага павету, куды, відаць, той-жа прадстаўнік інспэктароў прыяжджаў таксама 28 крас.

Дзеля нястачы месца балей у гэтым нумары скаргаў проці ходаньня з беларускімі дэклярантамі ня друкуем, хоць маем іх шмат.

Мусім адзначыць, што калі нашых дэклярантаў, жадаючых беларускае школы, гэтак ашукуюць, дык у гэтым вінна ня толькі мясцовая ўлада, але й тыя сяляне, што так лёгка йдуць на ашуканства. Трэба быць вытрывалымі за сваё і ня надта давяраць розным панком. Аб гэтым ужо пісалася ня раз. І праўда, у многіх мясцох сяляне ўжо навучыліся даваць адпор тым асобам, што ашуканствам хочуць прышчапіць на нашых землях польскую школу. За гэта гавора ніжэй пададзены прыпадак.

**Вёска Цінцявічы, воласьці й павету Вялейскага.**

„28 студня 1927 г. у в. Цінцявічы прыехаў нейкі ўраднік у справе школьнай. Ен загадаў солтысу, каб сабраў усіх бацькоў, каторыя маюць дзяцей у школьным веку.

Зборка была ў школе, дзе ўраднік сказаў (папольску) гэт'кае: „Я прыехаў да вас у школьнай справе, гэта значыцца можа маеце якія скаргі ці просьбы. Напішам да пана інспэктара просьбу, каб скасаваў кары за неакуратную хадню дзяцей у школу; будзем прасіць п. інспэктара, каб даў дармавыя кніжкі, сшыткі, алавікі і г. д. Каб дзеці вашыя вучыліся пабеларуску, бо гэта мова матчыная, і папольску, парасейску і навет пафранцуску; каб у школе была бібліотэка чытальня, кіно для дзяцей і г. д.“.

На гэта адказалі грамадзяне вёскі Цінцявічы: „На беларускую школу мы падалі дэкляарацыі, а аб польскай і гуткі ня можа быць“. Заяву, якую напісаў ураднік, з просьбай кніжак, сшыткоў і г. далей ніхто не згадзіўся падпісаць.

Калі сказалі таму ўрадніку, што трэба ў гэтай справе пазваць бацькоў з вёскі Жаўткі, Вялейскай воласьці, бо яны таксама належаць да гэтае школы, дык ён адказаў: «Я ў Жаўткох быў і ўсё зрабіў». Гэта была відавочная мана, бо ў Жаўткох яго ніхто ня відзеў. Яму толькі хацелася ашукаць нас, але гэта не ўдалося, бо з чым прыехаў, з тым і ад'ехаў“.

6. III. 1927.

*Ідуць подпісы.*

# Культурныя навіны.

## З пастановаў Камісыі дзеля апрацаваньня праграмаў беларускіх пачаткавых школаў. *)

**Мова польская** пачынаецца ў трэцім годзе. Дзеля таго што пры вучэньню мовы бацькаўскай (беларускай) вучань дастае вялікую часьць веданьня з языкаведы, каторая ёсьць у праграме нормальнай польскай мовы, Камісыя ўважае, што ня гледзячы на скарачэньне на палову часу, назначанага на польскую мову, моладзь здолее за пяць год прайсьці цэлую праграму польскае мовы на сем клясаў, праходзячы ў адзьдз. III курс адзьдзелу I й II-га, у адзьдзеле IV курс адзьдз. III і IV, курс дальшых адзьдзелаў адпавядаў-бы курсу тых самых адзьдзелаў школаў польскіх. Калі-б немагчыма было прайсьці ўсяго курсу польскае мовы, дык Камісыя думае, што ў адзьдз. VII можна скараціць курс польскае літэратуры, выпусьціўшы творы да Міцкевіча.

**Гісторыя.** Дзеля нястачы гадзінаў Камісыя раіць скасаваць гісторыю ў трэцім гадзе. У IV годзе—гутаркі п а б е л а р у с к у з гісторыі краю, зварочуючы ўвагу на развой культуры, пры гэтым мае быць выкарыстаны матар'ял, што дае найбліжшая ваколіца (руіны, курганы і да г. п.). Вучэньне гісторыі ў чацьвертым годзе мае быць злучана з прадметам географіі (краяведа). Праграма 5, 6 і 7 г. адпавядала-б праграме агульнай, але з прыняцьцем пад увагу этнографічнага прастору беларускага. У 5—7 г. г. гісторыя праходзілася-б папольску.

У 4 годзе гутаркі пабеларуску павінны быць дзеля таго, што дзеці польскую мову яшчэ слаба ўмеюць; апрача гэтага выкладаньне гісторыі ў роднай мове патрэбна тут яшчэ дзеля таго, каб нажываныя веданьні зьліваліся й гармонізавалі з дадзеным прасторам, а ня прыймаліся як штось вонкавае. Дзеля таго-ж трэба злучыць гісторыю з краяведай у 4 г. Але Камісыя адступае ад гэтага здаровага пагляду, лічачы, што ў 5, 6 і 7 г. г. ня можна дзяліць гісторыю Беларусі ад Польшчы і што ў гэтых адзьдзелах трэба гісторыю вучыць вылучна папольску, праўда, ня вылучаючы мамэнтаў, датычачых „этнографічных беларускіх земляў“.

**Географія.** Праграма географіі аднолькавая з праграмай школаў польскіх, з выняткам 4-га адзьдзелу, дзе заместа элемэнтарных ведамасьцяў аб Польшчы павінна быць азнаямленьне з Беларускім Краем (пачынаючы ад свайго

*) Глянь „Культ. навіны“ ў кн. 3 „Род. Гонеў“.

павету), з расшырэньнем у другім паўгодзьдзю на геаграфію Польшчы. Выкладовая мова да 6-га адзьдзелу ўлучне беларуская, у сёмым—польская.

**Рэлігіі** праграма наагул адпавядае праграме школаў польскіх. Вельмі характэрна, што Камісыя паставіла гэтакую пропозыцыю: „Прасіць мітрапалітальную курыю віленскую, каб барждэжэй дала апрабаты ці адмовы беларускіх падручнікаў рымска-каталіцкай веры, пададзеныя ў віленскую духоўную цэнзуру". Гэтак віленскі каталіцкі мітрапаліт у сваіх благіх адносінах да Беларусаў навет перайшоў польскіхураднікаў.

Трэба тут адзначыць, што тыя пастановы Камісыі, каторыя карысныя Беларусам, былі ёю прыняты дзякуючы адназгоднаму становішчу ўсіх прадстаўнікоў Беларусаў, запрошаных на конфэрэнцыю ў гэтай справе ў кураторыю ў Вільні. Толькі ў справе абэцэды суцэльны беларускі фронт зламаў ксёндз А. Станкевіч, самадыйна, бяз жаднага паўнамочча выказаўшыся за лацініцу. І ў гэтай справе мы відзім шкодную Беларусам пастанову Камісыі аб увядзеньні ў школы вылучне лацініцы. Запраўды, нідзе нячуваная рэч, каб адзін чалавек, жадаючы падлыгнуць уладзе, асьмелівався рабіць падобныя заявы проці волі вялікай большасьці свайго народу. Пара гэтаму памаўзьліваму ксяндзу зразумець, што справа беларуская гэта не „саюз" Ярэмічаў, дзе кс. А. С. можа рабіць усё, што хоча.

**Лічба высака-асьвечаных Беларусаў павялічылася.** У канцы чэрвіня сёлета скончыў Віленскі ўнівэрсытэт, як магістар права, грам. Адольф Зянюк. А. З. ведамы здаўна, як грамадзкі й культурны дзеяч беларускі.

Адначасна скончыў факультэт мастацтва Віл. у-ту грам. Сяргеевіч. Абодва яны прымаюць актыўнае ўчасьця ў беларускім студэнскім жыцьцю ў Вільні; А. Зянюк ёсьць старшынёй Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні.

Балей скончыла ўнівэрсытэт і тэхніку Беларусоў у Празе, але прозьвішчы пакуль што нам ня ведамы.

**Беларусы на Славянскім Зьезьдзе географаў і этнографаў.** На Славянскім Зьезьдзе географаў і этнографаў д-р Я. Станкевіч прачытаў у Вільні 7-га чэрвіня лекцыю на тэму: „Беларускія ўплывы ў рэлігійным жыцьцю мусульман і жыдоў".

**З Беларускай Гімназыі ў Вільні.** Як мы наказавалі ў кніжцы 2-й «Род. Гонеў», віленскі куратар быў паведаміў пяцёх вучыцялёў (Заморына, Міхалевіча, Паўловіча, Савіцкага й Сіняўскага) Віл. Бел. Гімназыі аб іх звальненьні

з будучага школьнага году. Цяпер міністэрства Асьветы ўзяло назад сваю пастанову адносна Міхалевіча й Пауловіча, зн. яны астануцца вучыцяльмі гімназыі далей. Трэба спадзявацца, што дазволяць вучыць далей і іншым тром.

Галоўная Управа Т-ва Беларускае Школы назначыла грам. С. Пауловіча дырэктарам Віл. Беларускай Гімназыі і падала яго на зацьвярджэньне Віл. школьнаму куратару.

**Беларускія матурысты.** Беларускую гімназыю ў Вільні скончылі: Асаевічанка Соф'я, Грыгарук Іван, Ільляшэвіч Хведар, Кавэрда Арына, Муха Айша, і Яцкевіч Мікола. Як бачым, паміж матурыстымі ёсьць адна мусульманка (Айша Муха), каторая, як даўней нашыя мусульмане наагул, ёсьць добрай беларускай патрыёткаю.

Із сёмае ў восьмую клясу перайшлі: Будзька Арына, Вайцяховіч Зьдзіслаў, Грыц Зоя, Зімніцкая Каліса, Казлоўская Аўгеня, Мамчыц Ксеня, Скурка Марыя, Хвораст Іван, Цітовіч Леванід, Чартовіч Казімер, Шутавіч Вайцех, Шчасны Пётра, Шышка Уладзімер, Салагуб Аляксей, Рышкевічанка Зінаіда і Озічышка Рожа.

**Вучнёўская выстаўка малюнкаў.** 25-га чэрвіня ў залі Беларускае Гімназыі ў Вільні адчынена беларуская вучнёўская выстаўка малюнкаў. Скончыцца выстаўка 5-га ліпня. На выстаўцы ёсьць абразы вучнеў Віленскай і Радашкаўскай Беларускай Гімназыі ды апрача таго мастака Язэпа Драздовіча, каторы быў ініцыятарам і арганізатарам выстаўкі. Гэт'кія вучні далі свае малюнкі: А. Быхавец, М. Васілеўскі, С. Жураўлёў, Я. Казлоўскі, Л. Маргайлік, М. Сеўба, С. Сьлезьнік, В. Сідаровіч, Я. Хвораст і М. Якімец. З паміж абразоў Драздовічавых асаблівую ўвагу на сябе зварочуюць рысункі пярцом.

**Вечар аўтараў.** 21-га мая ў Вільні ў Народным Доме Т-ва Беларускае Школы быў вечар аўтараў. На вечары выступалі гэткія аўтары: Наталья Арсенева, Зоська Верас, М. Васілёк, А. Бартуль, Салагуб і іншыя. Вечар зрабіў вельмі добрае ўражаньне. Публікі было мноства.

**10-ыя ўгодкі сьмерці Максіма Багдановіча.** 28 мая сёл. ўрачыста адбыліся ў Вільні і шмат дзе па провінцыі. Успамін звычайна арганізавалі Гурткі Т-ва Беларускае Школы. У Вільні былі два рэфэраты (Антона Луцкевіча і д-ра Ігн. Дварчаніна), дэклямавалі вершы Багдановічавы і хор пад кіраўніцтвам грам. Шырмы пяяў М. Б. вершы пакладзеныя на ноты.

## Адзьдзел для нашых дзетак у „Беларускай Крыніцы“.

У нас, дзе дзіцячай літэратуры амаль што няма, кожны добры пачатак, кожная спроба даць дзяцём хоць крышку духовае стравы вітаецца з надзеяй, што вось гэта толькі пачатак, а там... І беларускае грамадзянства вітала і спадзявалася на гэты маленькі „Адзьдзел“, што ён будзе тым добрым пачаткам-спробай. Але, на жаль, рэдакцыя, відаць, мала дбае аб гэтай „чэкары“ (дзяцёх) і запаўняе адзьдзел „што Бог паслаў“.

У № 14 сёлета ў вершы „Пястун“ бачым такую красачку: „А муха як на злосьць, каб яе халера, вот псякосьць“! Як для дзяцей дык зусім добра. Ці-ж ня праўда?

У № 15 сёл. ў апавяданьні „Пшчолкі“ чытаем: Вось із свайго даўгога зімовага сну прабудзілася „пшчолка“... „Мы ўсю зіму галадалі... Гэта была сінюлька—„фіялка“, з каторай яны напіліся наеліся салодкага соку“.

Гэта мае быць азнаямленьне дзяцей з жыцьцём пшчолаў!

Пшчолы ўзімку ня сьпяць і не галадаюць, бо маюць запас мёду, а калі ня маюць, іх падкармлююць цукрам. „Сінюлька“ цьвіце ў траўні. Апрача таго яна расьліна не мядовая.

Найранейшымі мядовымі расьлінамі ёсьць: „Падбел, пралескі, сончыкі і інш.“, з каторых пшчолы і бяруць першы мёд і пыл.

А вось „пэрлы“ з твору „Прырода вясной“ (№ 16).

> „Пачынае пукаці лаза (іва); распускае свае г а л у з к і, а далей і раскідзістая верба разьвівае свае лісточкі.
>
> Хутка сьнег зусім згіне: з паўднёвых краёў лятуць гусі, журавы.—
>
> Птушкі зноў вяртаюцца ў свае краі. Ластаўка г д з е с ь каля Багавешчаньня... А бацяны-буслы, быўшыя ўжо летась тутака, вяртаюцца да свайго старога гнязда... Жаўранак высока ў паветры трымціць сваімі крыльлямі і пяе сваю песьню над палямі, гдзе сяляне гаруць і пакрыківаюць на сваіх конікаў.
>
> Салавейка ўвечар пяе свае прыгожыя песьні аб каханьні, аб долі і нядолі чалавечай. Сівая зязюля пачынае кукаваць у лесе.
>
> На полі пшаніца, жыта, авёс і другое збожжа выпускае свае л і с т о ч к і з зямлі і пачынае пакрываць палі. У с я а з і м і н а ў з ы й ш л а.
>
> У л я с о х з г і н у ў с ь н е г...

Значыцца «сьнег ляжыць», «пукае лаза», распускае свае галузкі, верба разьвівае свае лісточкі, а птушкі лятуць: ластаўка каля Благавешчаньня, бусел хіба крыху пазьней, а жаваранак толькі тады пачынае пяяць свае песьні, калі сяляне гаруць; салавей пяе аб каханьні зязюля кукуе, як сьнег ляжыць у лесе і ня дбае.

На полі пшаніца, жыта, авёс (авёс такжа мусіць азіміна?) выпускае свае лісточкі.

Азіміна ўзыходзе вясной, а ня ўвосень.

Наагул увесь „адзьдзел“ адзначаецца сваей беспляновасьцяй, як кажуць,—„абы з рук збыць“.

З тае прычыны, што «Адзьдзел для нашых дзетак» у „Bieł. Kr.“ запраўды ня мае жаднае рэдакцыі, добрае жаданьне грам. Невярыскай, усёй душою адданай беларускім дзяцём, мала даходзе свае мэты.

**Бакляр.**

---

## Свая пошта.

**Янку Дарашкевічу.** 2 зал. ад Вас дасталі, „Родныя Гоні“ высылалі акуратна, дамагайцеся на пошце. 2.VI паслалі Вам упісанай (заказной) пасылкай першыя тры нумары. „Маланка“ ізноў выходзе.

**Сіўчанцы.** Прысланае апавяданьне добрае, надрукуем у дальшым нумары; пішэце балей.

**Я. Ц.** Прысланыя пераклады добрыя, надрукуем у дальшых кніжках.

---

## ЗЬМЕСТ.



---

Выдавец: **М. Станкевіч.** Рэдактар: **Вера Дзегцяранка.**

Друкарня С. Бэкэра, Вільня, Субач 2.





